КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 44 (316) ◂ 16 лістапада ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ЛЁС АНТОНА ШКЯЛЁНКА

Стар. 15



ISSN 2218-2144



ЧЫТАЙЦЕ
Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!

**ВЫЕХАЦЬ НЕЛЬГА ЗАСТАЦЦА**

Нарыс Ігара Мельнікава

▸ З НАГОДЫ

# КДБ СУПРАЦЬ СЛЕСАРА

Вольга ХВОІН

**Нешта няладнае творыцца ў аплоце стабільнасці. Не паспее Беларусь ачомацца ад адной рэзанансная справы з выбухамі, тэрарызмам ды іншымі іншароднымі элементамі, як з'яўляюцца новыя нагоды засумнявацца ў крыштальнасці і мірнасці беларускага цуда.**




Гэтым разам КДБ выкрыў слесара-шпіёна, калі той закладаў «сакрэт» для замежнай разведкі. Пра характарыстыкі схованкі нічога не паведамляецца. «Камітэтам дзяржаўнай бяспекі спынена супрацьпраўная дзейнасць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь Андрэя Гайдукова, які займаўся паводле задання замежнай разведкі зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару», — паведамілі БелаПАН у Цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ. «Згаданы грамадзянін затрыманы супрацоўнікамі КДБ у момант закладкі тайніка са звесткамі, што цікавяць замежныя спецслужбы», — сказаў Аляксандр Антановіч.

У дачыненні да Гайдукова распачата справа на падставе ч. 1 арт. 356 Крымінальнага кодэкса (здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці, пакаранне да 15 гадоў пазбаўлення волі згодна з часткай 1), «праводзіцца комплекс аператыўна-вышуковых і следчых мерапрыемстваў, скіраваных на выяўленне іншых эпізодаў яго супрацьпраўнай дзейнасці». Затрыманы змешчаны ў СІЗА КДБ. 22-гадовы Андрэй Гайдукоў працуе аператарам на наваполацкім «Нафтане». Багатая на дыверсантаў розных колераў Віцебская вобласць, што і казаць... Разам з Гайдуковым у той жа дзень затрымалі ў Полацку актывіста БХД Іллю Багданава. Аднак Багданаў хутка быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе, з яго ўзятая падпіска аб неразгалошванні таямніцы следства.

Слесар Гайдукоў удзельнічае ў дасюль малавядомым Саюзе маладых інтэлектуалаў і з'яўляецца першым намеснікам старшыні. Падчас перадвыбарчай кампаніі Андрэй Гайдукоў і Ілля Багданаў былі даверанымі асобамі былога кандыдата ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Аляксея Філімонава. «Гэта поўная бязглуздзіца, якія дзяржтаямніцы можа ведаць або даведацца звычайны працоўны чалавек?! — пракаментаваў затрыманне Гайдукова для сайта «Хімік» экс-кандыдат. — Ён мог сустракацца з замежнымі грамадзянамі па пытаннях стварэння моладзевай арганізацыі, але гэта патрабаванні нашага заканадаўства, што павінны быць замежныя заснавальнікі». Між іншым, знаёмыя Гайдукова сцвярджаюць, што англійскай мовы ён не ведаў.

Факт выкрытай шпіёнскай дзейнасці простага слесара выклікае мноства пытанняў і кпінаў. Асабліва цікава гэта глядзіцца на фоне апошніх падзей, звязаных са структурамі спецслужбаў. 11 лістапада каля будынка ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці здарыўся выбух самаробнай прылады, распачата крымінальная справа па частцы 3 артыкула 339 КК (асабліва злоснае хуліганства).

Выбух у Віцебску адбыўся праз два дні пасля адстаўкі старшыні КДБ Вадзіма Зайцава (ён адхілены ад пасады 9 лістапада рашэннем кіраўніка дзяржавы), а таксама напярэдадні ўступлення ў сілу змяненняў і дапаўненняў у законы аб барацьбе з тэрарызмам, аб супрацьдзеянні экстрэмізму і ў некаторыя артыкулы Крымінальнага кодэкса (яны ўступілі ў сілу 12 лістапада). Аб рашэнні Лукашэнкі пасля нарады ў кіраўніка дзяржавы расказаў дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Леанід Мальцаў. Ён адзначыў, што ў сваіх выступах генеральны пракурор і старшыня Следчага камітэта паставілі шэраг пытанняў. У прыватнасці, яны тычыліся апошніх падзей, звязаных з Камітэтам дзяржаўнай бяспекі. «Усім вядома пра самагубства падпалкоўніка КДБ Аляксандра Казака. Ёсць і шэраг іншых пытанняў, якія патрабуюць уважлівага расследавання», — заявіў высокапастаўлены чыноўнік.

Шпіёна Гадукова затрымалі 8 лістапада. Выглядае на тое, што ў Беларусі завяліся чарговыя ворагі з касты «электрыкаў-слесараў», якія спяць і бачаць, як бы дэстабілізаваць абстаноўку (знаёмая фармулёўка з гучнай справы расстраляных за арганізацыю выбуху ў сталіцы на Дзень незалежнасці і ў мінскім метро Канавалава і Кавалёва). Намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі (ЛДП) Алег Гайдукевіч, былы начальнік упраўлення ўнутраных спраў Фрунзенскага раёна Мінска, паспеў зрабіць заяву для прэсы акурат з аналагічнымі словамі. «Гэта спроба дэстабілізаваць абстаноўку ў Рэспубліцы Беларусь, ніякіх жартаў і дробязяў мы тут не бачым», — падкрэсліў ён.

Пра супрацьстаянне, саперніцтва сілавых структур Беларусі вядома даўно. Як вынікае са слоў Мальцава, у гэтай сітуацыі лік на карысць Следчага камітэта — кіраўнік КДБ развітаўся са сваёй пасадаю. Верагодна, аперацыя суперзахопу шпіёна планавалася, каб паказаць, каму трэба, дзеяздольнасць КДБ, але было позна. Відавочна, своечасова прагучалі і выбухі каля будынка ўпраўлення КДБ па Віцебскай вобласці, а перад гэтым з'явілася інфармацыя пра выбухі каля дзяржаўнай мяжы і на тэрыторыі літоўскага пасольства. Не краіна, а логава змовы і тэрарыстаў. Сумна, што крайнімі ў высокіх разборках становяцца грамадзяне, палітычныя апаненты (у рамках надзвычайных сітуацый на допыты традыцыйна цягаюць прадстаўнікоў апазіцыі), а для некага гэта ўвогуле заканчваецца трагічным фіналам. Між іншым, хутка Новы год, то на тле апошніх падзей можна чакаць узмацнення ўвагі міліцыі, а таксама і ўзроўню трывогі жыхароў краіны. Навіны пра выбухі і бітвы за ўраджай зусім з аднаго шэрагу, і першыя ніяк не граюць на пазітыўны імідж уладаў.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### ГОМЕЛЬ. АШТРАФАВАЛІ СТАРШЫНЮ АБЛАСНОЙ АРГАНІЗАЦЫІ ПАРТЫІ ЛЕВЫХ «СПРАВЯДЛІВЫ СВЕТ»

14 лістапада суд Чыгуначнага раёна Гомеля разгледзеў адміністратыўную справу старшыні гомельскай абласной арганізацыі партыі левых «Справядлівы свет» Уладзіміра Сякеркі. Па артыкуле 23.4 КаАП (непадпарадкаванне законным патрабаванням службовых асоб) суддзя Анатоль Сотнікаў пастанавіў аштрафаваць палітыка на 20 базавых велічынь — гэта 2 мільёны рублёў.

Нагадаем, справа супраць Сякеркі была распачатая пасля таго, калі ён 14 кастрычніка пасля патрабавання памежнікаў адмовіўся пакінуць цягнік Чарнігаў — Гомель, што прывяло да затрымкі транспартнага сродку.

Уладзімір Сякерка віну не прызнаў, бо лічыць дзеянні памежнікаў неправамоцнымі і незаконнымі: згодна з артыкулам 17 закона «Аб органах памежнай службы», пры абмежаванні правоў грамадзян супрацоўнік памежнай службы абавязаны растлумачыць, па якіх прычынах адбываецца абмежаванне правоў.

«Я прасіў растлумачыць, але ніхто гэтага не зрабіў. У рапарце было напісана дакладна так: «Выяўлены грамадзянін, які знаходзіўся ў спісах па даручэнні праваахоўных органаў». На судзе я прасіў растлумачыць: якія спісы, хто мяне туды ўнёс і як з іх выйсці. Але таксама ніхто не адказаў. Яшчэ да суда я пісаў скаргу кіраўніцтву памежнай групы, дзе задаваў тыя ж пытанні, але таксама не атрымаў адказаў», — гаворыць Сякерка.

Палітык плануе скардзіцца ў пракуратуру і прасіць разабрацца: што за спісы мелі на ўвазе памежнікі.

### ГОРКІ. ДЭМАКРАТЫЧНЫЯ АКТЫВІСТЫ БУДУЦЬ ДАМАГАЦЦА АДНАЎЛЕННЯ ПОМНІКА ЯНКУ КУПАЛУ

Дэмакратычныя актывісты Горацкага раёна маюць намер пастаянна нагадваць мясцовым уладам пра неабходнасць аднаўлення памятнай пліты ў гонар класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы. Пра гэта паведаміла рэдактар незалежнай газеты «Узгорак» Галіна Будная.

Памятную пліту прыбралі з месца пастаяннага знаходжання напярэдадні «Дажынак» без усялякага грамадскага абмеркавання. А была ўсталяваная памятная пліта ў 2003 годзе за акадэмічнай бібліятэкай, якую неаднаразова наведваў Янка Купала.

Нагадаем, што 2012 год аб'яўлены ў Беларусі Годам кнігі, да таго ж сёлета адзначаецца 130-гадовы юбілей Янкі Купалы.

«Прарэктар БДСГА Аляксандр Салянік патлумачыў мне, што памятную пліту прыбралі, таму што там пастаянна збіраліся выпівохі, яны неаднаразова выварочвалі помнік з зямлі, — распавядае Галіна Будная. — Наколькі я ведаю, улады не паспявалі да «Дажынак» навесці патрэбны парадак на гэтым месцы, таму і прыбралі помнік, каб праблема знікла. Безумоўна, месца, дзе стаяла памятная пліта, не вельмі ўдалае... Аднак пасля «Дажынак» прайшло даволі шмат часу, можна ж было знайсці для помніка годнае месца. Аляксандр Салянік паабяцаў мне, што месца будзе знойдзена і помнік Купалу будзе адноўлены. Мы будзем пра гэта яму пастаянна нагадваць. Учора я размаўляла з загадчыцай акадэмічнага музея Таццянай Лосевай, яна таксама сказала, што для памятнай дошкі, магчыма, будзе знойдзена новае месца. Сумна, што ў Горках такім чынам ушанавалі памяць паэта якраз у год яго 130-гадовага юбілею»…

Нагадаем, што напярэдадні «Дажынак» у Горках, нягледзячы на пратэсты мясцовых жыхароў, быў разбураны дом, у якім жыў другі класік беларускай літаратуры — Максім Гарэцкі.

### САЛІГОРСК. СТУДЭНТАМ ЗАБАРАНІЛІ СКАРДЗІЦЦА НА ХОЛАД У КАЛЕДЖЫ

Нашумелая гісторыя з адсутнасцю ацяплення ў Салігорскім дзяржаўным горна-хімічным каледжы займела свой нечаканы працяг.

Нагадаем, у канцы кастрычніка салігорскія студэнты даслалі на гарачую лінію партала TUT.by ліст, у якім скардзіліся на адсутнасць ацяплення ў аўдыторыях каледжу. Навучэнцы літаральна замярзалі на занятках. Інфармацыя пра салігорскую моладзь разляцелася па ўсім байнэце, і адміністрацыя навучальнай установы адразу «дала цяпло». Каб згасіць пратэстныя настроі, кіраўніцтва каледжу ўзялося за пошукі аўтараў скаргі.

Зрэшты, па атрыманай салігорскімі праваабаронцамі інфармацыі, ацяпленне ў каледжы пратрымалася літаральна пару дзён, пасля чаго зноў было адключана. Пры гэтым апранаць курткі ў памяшканнях каледжу не дазваляецца. Больш за тое, пра адсутнасць ацяплення ў будынку студэнтам забаранілі паведамляць нават бацькам. Што да аўтараў скаргі, дык знайсці іх у адміністрацыі не атрымалася. Пошукі скончыліся запужваннямі ды пагрозамі на адрас адной з навучальных групаў горна-хімічнага каледжу.

Апошнія факты выклікаюць у праваабаронцаў асаблівую заклапочанасць. Па сутнасці, гэткае стаўленне да навучэнцаў можна разглядаць як катаванне. Студэнтам наўмысна прычыняюць фізічныя пакуты, каб пакараць за ліст на TUT.by. Пры гэтым маладзёнаў запужваюць ды прымушаюць да маўчання. Робіцца гэта ўсё афіцыйнымі асобамі дзяржаўнай установы.

**Матэрыялы падрыхтаваны паводле сайта spring96.org**

РЭЙТЫНГ

## БЕЛАРУСЬ У «ЕЎРАПЕЙСКІМ СПІСЕ АСАБЛІВАЙ УВАГІ»

**Разам з нашай краінай у «Еўрапейскі спіс асаблівай увагі» Міжнароднага інстытута прэсы (IPI) уваходзяць Турцыя, Венгрыя і Украіна. Усе яны «паказваюць трывожныя прыклады адступлення ад свабоды СМІ ў Еўропе».**




Спіс краін складаецца на падставе справаздач экспертаў IPI і Медыяарганізацыі Паўднёва-Усходняй Еўропы (SEEMO), — паведамляецца на сайце IPI.

«IPI абрала гэтыя чатыры краіны не таму, што яны абавязкова найгоршыя ці адзіныя злачынцы, а таму, што кожная з іх сімвалізуе рост пагрозы для свабоды СМІ ў Еўропе», — тлумачыць арганізацыя.

Падаем вытрымкі з «профілю» Беларусі ў справаздачы IPI, дзе абгрунтоўваецца знаходжанне нашай краіны ў "трывожным" спісе:

«Беларускі аўтарытарны прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка прыняў прысягу на чацвёрты тэрмін у студзені 2011 года на фоне працягла падаўлення апанентаў і СМІ пасля спрэчных прэзідэнцкіх выбараў. Ён быў пераабраны 80 адсоткамі галасоў, але апазіцыя і міжнародныя назіральнікі заявілі, што выбары былі сфальсіфікаваныя. Заходнія дзяржавы пазней увялі санкцыі супраць Лукашэнкі і яго бліжэйшых памочнікаў.

Адразу ж пасля выбараў больш за 600 чалавек — у тым ліку апазіцыйных кандыдатаў, журналістаў і праваабаронцаў — былі збітыя і затрыманыя, у асноўным падчас мірных пратэстаў. Больш за два дзесяткі журналістаў былі пасаджаны ў турму за кароткі перыяд пасля выбараў...

Апазіцыйныя сайты рэгулярна блакуюцца, як маркуецца, за парушэнне законаў, якія забараняюць несанкцыянаваныя мітынгі, а журналісты затрымліваюцца па ілжывых абвінавачваннях, у тым ліку за "хуліганства". Многія СМІ пацярпелі ад пераследу пасля асвятлення падзеяў 11 красавіка 2011 года, калі ў выбуху на станцыі метро ў Мінску загінулі 12 і былі паранены каля 200 чалавек: улады абвінавацілі СМІ ў публікацыі «ілжывай інфармацыі» і «дыскрэдытацыі ўладаў». Урад па-ранейшаму пераследуе тых, хто асвятляе пытанні бяспекі ў метро.

КДБ, які захаваў сваю назву ў Беларусі пасля распаду Савецкага Саюзу, аказвае моцны ціск на актывістаў, якія выкарыстоўваюць сацыяльныя СМІ, каб арганізаваць акцыі пратэсту. Пасля разгону па слядах спрэчных выбараў гэтыя пратэсты прынялі творчыя формы для таго, каб пазбегнуць абмежаванняў на несанкцыянаваныя сходы, у тым ліку маршы, у якіх удзельнікі нічога не казалі, а толькі пляскалі ў ладкі, і «цацачныя пратэсты», у якім мяккія цацкі і іншыя дзіцячыя цацкі выстаўляліся на вуліцы з плакатамі і лозунгамі ў абарону свабоды слова і супраць уладаў. У ліпені шведскія актывісты раскідалі плюшавых мядзведзікаў на невялікіх парашутах з лозунгамі за свабоду прэсы: гэтыя дзеянні прывялі да звальнення высокапастаўленых ваенных чыноўнікаў і працяглага ціску на СМІ...

У верасні 2012 года ў Беларусі прайшлі парламенцкія выбары, па выніках якіх усе 109 абраных дэпутатаў прадстаўляюць праўладныя партыі. Міжнародныя назіральнікі вострa раскрытыкавалі выбары як фарс.

МІП лічыць, што Беларусь з'яўляецца адной з краін, якія сімвалізуюць павелічэнне пагрозы для свабоды медыяў у Еўропе».

**www.freemedia.at,**
**пераклад ГА «БАЖ»**

САЛІДАРНАСЦЬ

## У ЗША ІДЗЕ КАМПАНІЯ Ў ПАДТРЫМКУ ПАЧОБУТА

**Колькасць жыхароў Амерыкі, праінфармаваных пра пераслед беларускага журналіста, дасягае пятай часткі насельніцтва Беларусі.**

Так ацэньваюць маштаб зробленага на сённяшні момант арганізатары інфармацыйнай кампаніі ў ЗША — актывісты Big Open World Foundation.

«Звесткі пра чарговы пераслед журналістаў у Беларусі па часе супалі з падзеямі першачарговай важнасці для жыхароў Амерыкі. Разумеючы, што па значнасці для амерыканцаў тое, што адбываецца ў Беларусі, не можа канкураваць з выбарамі ў ЗША і ўраганамі на Атлантычным узбярэжжы, мы, тым не менш, распачалі кампанію па інфармаванні насельніцтва ЗША пра пераслед беларускімі ўладамі Андрэя Пачобута», — гаворыцца ў паведамленні, якое ГА «БАЖ» атрымала ад арганізатараў.

Па іх словах, «рэакцыя натхняе».

Амерыканскі PEN, які разам з Amnesty International выступаў з заявай пасля суда над Пачобутам, накіраваў інфармацыю пра новую справу супраць журналіста ў штаб-кватэру Міжнароднага PEN у Лондане. У падтрымку журналіста выступілі рускамоўныя літаратары, акцёры, мастакі Амерыкі. Звароты разасланыя ў культурніцкія цэнтры нацыянальных дыяспар. Інфармацыя з'яўляецца на форумах. Найбуйнейшыя ў ЗША рускамоўныя штотыднёвікі «Русский базар» і «Русская реклама» з больш як мільённай аўдыторыяй апублікавалі зварот ГА «БАЖ» з заклікам падтрымаць беларускага калегу. Выкладчыкі і студэнты Калумбійскага ўніверсітэта наладзілі абмен інфармацыяй пра пераслед Пачобута.

«Выбары і ўраганы прайшлі. Рух у абарону Андрэя Пачобута працягвае працаваць. Рыхтуюцца новыя акцыі. Любыя пасягальніцтвы на правы абмежаваць свабоду выказвання не пройдуць незаўважанымі для сусветнай грамадскасці, — пішуць арганізатары кампаніі ў ЗША. — Беларускія ўлады маюць шанец канчаткова сапсаваць свой імідж у вачах тых былых суайчыннікаў, у каго яшчэ заставаліся ілюзіі адносна ўнутранай абстаноўкі ў Рэспубліцы Беларусь...»

Нагадаем:

21 лістапада скончыцца чарговы тэрмін следства па крымінальнай справе Андрэя Пачобута. Калі расследаванне не працягнуць, справа можа быць перададзена ў суд.

Карэспандэнта польскай «Gazety Wyborczej», сябра БАЖ абвінавачваюць у парушэнні ч. 2 арт. 367 КК РБ «Паклёп у дачыненні да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Справу завяло Упраўленне Следчага камітэту па Гродзенскай вобласці ў чэрвені 2012 года на падставе шэрагу публікацый журналіста ў інтэрнэце.

21 чэрвеня ў яго кватэры ў Гродна адбыўсяператрус, у выніку якога ў журналіста забралі аргтэхніку. Да 30 чэрвеня журналіст прасядзеў у гродзенскім СІЗА, пасля чаго быў адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

Паводле Крымінальнага кодэксу Беларусі, журналіста могуць пакараць абмежаваннем волі на тэрмін да 5 гадоў альбо пазбаўленнем волі на такі ж тэрмін.

Да гэтага тэрміну можа дадацца трохгадовы тэрмін зняволення, на які Пачобут быў асуджаны 5 ліпеня 2011 года з адтэрміноўкай выканання прысуду на 2 гады. Тады журналіста таксама прызналі вінаватым у парушэнні арт. 367 ч. 1 (паклёп на прэзідэнта). Па законе, калі на працягу двух гадоў асуджаны здзейсніць парушэнне гэтага ж артыкулу закона, то пакаранне абавязкова будзе ўжыта супраць яго.

**Прэс-служба ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ТАВАРЫШ ПРАВАДЫР, АДЫДЗІЦЕ Ў БОК!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Некаторыя заявы пра «сейфавую прыватызацыю» беларускіх апазіцыянераў, здаецца, дасягнулі вушэй прэзідэнта. Аб'яднаная грамадзянская партыя на чале з лідарам Анатолем Лябедзькам шмат казала пра заяву Аляксандра Рыгоравіча, што, маўляў, у яго ёсць сейф з дакументамі прадпрыемстваў, прызначаных на прыватызацыю. І ўсе інвестары з прапановамі павінны прыходзіць да яго. І, здаецца, гэта сапраўды так.**



На сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі факультэта міжнародных эканамічных адносін Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта Лукашэнка заявіў, што, перш чым прыватызаваць прадпрыемства, кожны інвестар павінен выканаць 25 прынцыпаў, якія ўключаюць мадэрнізацыю вытворчасці, выплату падаткаў, павышэнне заработнай платы і іншыя. «Калі ты гатовы, згодны на гэта — добра, але калі ты да гэтага не гатовы, то мы з табой размаўляць не будзем», — цытуе Лукашэнку яго прэс-служба. Беларускі кіраўнік дадаў, што ў прыватызацыі «ўсё павінна быць сумленна, справядліва і празрыста».

«Працэс прыватызацыі вельмі бюракратычны, і я яго не збіраюся дэбюракратызаваць», — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Пра тое, што працэс прыватызацыі ў нас бюракратызаваны, не ведае толькі лянівы. Пра 25 умоваў прыватызацыі даўно вядома. Тое, што нічога ў гэтай галіне не змяняецца, — таксама не таямніца. Але з гэтага спіча беларускага правадыра можна зрабіць толькі адну выснову: дэкрэт прэзідэнта аб дэбюракратызацыі не працуе. А як жа прынцып «аднаго вакна»? А як жа калектыўныя звароты грамадзян — бо зварот нейкай кампаніі па прыватызацыю можна лічыць гэтым зваротам?

Заяўляючы гэта, пэўна, Аляксандр Лукашэнка не разлічваў на тое, што да яго могуць заўтра прыйсці з Камітэта дзяржкантролю альбо Савета міністраў і пацікавіцца: «Паўтары, што ты там казаў?» Бо менавіта на Саўмін і Дзяржкантроль ускладзеныя абавязкі па выкананні дэбюракратыйнага дэкрэту.

Адначасова Лукашэнка даў і лішні туз у заявы Лябедзькі пра «сейфавую прыватызацыю». «Я часам вельмі акуратна і насцярожана стаўлюся да прыватызацыі агульнанароднай уласнасці. Я апошнім стаўлю подпіс, і за ўсё несці адказнасць буду я», — сказаў Лукашэнка.

Гэта вельмі не асцярожная заява. Прыватызацыя — спроба прывесці інвестыцыі ў краіну. Атрымліваецца, што Лукашэнка вінаваты ў зрыве інвестыцыйных паказчыкаў? Бо за першае паўгоддзе 2012 года Беларусь атрымала замежных інвестыцый менш, чым нават у 2011-м, — толькі 7 мільярдаў долараў. Гэта правал інвестыцыйнай палітыкі. Звязаны, акрамя таго, з бюракратыяй у тым ліку.

Нават новы пасол Вялікабрытаніі ў Беларусі Брус Бакнэл заўважыў: пакуль што ў Беларусі з прыватызацыяй вельмі складана. «У Лондане, як у важным фінансавым цэнтры, вядома, ёсць цікавасць да Беларусі. Але, мне здаецца, гэтая цікавасць значна ўзрасце, калі будзе паспяховы прыклад прыватызацыі хаця б аднаго беларускага прадпрыемства. Без такога прыкладу складана стымуляваць цікавасць інвестараў», — лічыць дыпламат.

То бок, паспяхова мы яшчэ нічога не прыватызавалі. Так, «Белтрансгаз» Расіі прадалі, і тое па-сяброўску. І тут таксама цікавы момант: продаж «Белтрансгазу» чалавек з Лондана, «важнага фінансавага цэнтра», зусім не лічыць прыватызацыяй. А што ж гэта тады было такое?

Гэта было невядома што, невядома як і невядома кім зробленае, аказваецца, а адказнасць за гэта нясе персанальна Аляксандр Рыгоравіч. Во як падставілі чалавека.

Зразумела, у гэтай сітуацыі беларускаму кіраўніку патрэбныя «эфектыўныя менеджары». Апошняе зняцце спадара Зайцава з пасады старшыні КДБ гэта яскрава паказала. Лукашэнка нават не прызначыў яму замену, усклаўшы абавязкі шэфа КДБ на старшыню Саўбеза Юрыя Жадобіна. Сапраўды, няма дасведчаных людзей, і іх трэба вырошчваць, зразумеў Лукашэнка.

Але ў гэтым ён наступае на старыя граблі. Лукашэнка прапанаваў па некаторых спецыяльнасцях пашырыць мэтавы набор у ВНУ. У якасці прыкладу структуры, якой патрэбныя кадры, Лукашэнка прывёў супрацоўнікаў Камітэта дзяржаўнай бяспекі. «Там павінны быць адданыя дзяржаве людзі. Туды нам трэба мэтавым чынам вывучаць і адбіраць людзей», — сказаў ён. «Ёсць і іншыя кірункі, — працягнуў Лукашэнка. — Да іх я адношу ў тым ліку палітычных і эканамічных міжнароднікаў. Таму не выключана, што мы вельмі сур'ёзна, мэтавым чынам з грамадства будзем выкрышталізоўваць гэтых людзей. Тут павінны быць сумленныя і адданыя людзі, да мозгу касцей дзяржаўныя», — заявіў ён.

Адзначым, што ніякіх «эфектыўных менеджараў» Лукашэнка такім чынам не атрымае. Ён атрымае «адданых дзяржаве», а не разумных, адукаваных, ініцыятыўных і крэатыўных, нестандартна думаючых людзей. Бо «адданасць дзяржаве» — гэта не ўменне думаць і хутка рэагаваць на зменлівы свет. Гэтаму вучаць недзе ў іншым месцы, і, па вялікім рахунку, Лукашэнка павінен быў бы шукаць гэтае самае месца.

Ды што можна казаць пра будучых спецыялістаў, якія замест вучобы (нагадаем, што 12 лістапада было панядзелкам) праседжваюць некалькі гадзінаў, слухаючы прэзідэнта? Канешне ж, паслухаць прэзідэнта можна, і часам карысна. Але марнаваць на гэта палову працоўнага дня? На месцы выкладчыкаў я б параіў сваім студэнтам, якім так цікавы прэзідэнт, паглядзець яго ўвечары па тэлевізіі, не марнуючы вучэбны час.

Увогуле, эфектыўны кіраўнік — гэта чалавек, якога не бачна і не чутна, які здолее так «настроіць» механізм працы, што машына будзе працаваць сама па сабе. Вось не чапае апошнім часам прэзідэнт, напрыклад, культуру — і ў Мінску паспяхова праходзіць «Лістапад». Больш за тое, гран-пры «Залата «Лістапада» за лепшы фільм прысуджаны карціне «У тумане» рэжысёра Сяргея Лазніцы, знятай паводле аднайменнай аповесці Васіля Быкава. У рамках фэсту фільм паказалі аж тры разы, столькі было жадаючых на яго падзівіцца. Ды ўвогуле, па словах мэра Мінска Ладуцькі, сёлета абсалютная большасць фільмаў прайшла пры аншлагу, а ў кінатэатрах горада не хапала месцаў для вялікай колькасці ахвотных убачыць кіно.

На цырымоніі адкрыцця другой Нацыянальнай тэатральнай прэміі гледачам быў паказаны конкурсны спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа (Віцебск) «Леаніды не вернуцца на зямлю» паводле рамана Уладзіміра Караткевіча «Нельга забыць». Можа, і гэты спектакль таксама стане фаварытам.

Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» з моманту адкрыцця пасля рэстаўрацыі ўжо зарабіў мільён долараў на турыстычна-экскурсійнай дзейнасці. У лістападзе свой першы мільён долараў павінен зарабіць і замкавы комплекс «Мір».

Можа, перастаць умешвацца ў прыватызацыю ды адукацыю? Больш карысці будзе.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АНДРЭЙ ГАЙДУКОЎ



КДБ затрымаў навапалацкага актывіста аргкамітэта партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя: яго вінавацяць у здрадзе дзяржаве. Каардынатарка БХД па Віцебскай вобласці Таццяна Севярынец паведаміла, што 8 лістапада ў Віцебску быў затрыманы грамадскі актывіст Андрэй Гайдукоў з Наваполацка, затым у Полацку — сябар БХД Ілля Багданаў. Апошні неўзабаве быў вызвалены пад падпіску аб неразгалошванні, Андрэя Гайдукова ж 11 лістапада даставілі ў СІЗА КДБ у Мінск. Яго вінавацяць паводле артыкула 356 Крымінальнага кодэкса — здрада дзяржаве. У СІЗА КДБ вазілі таксама і Іллю Багданава, а ў яго дома праводзіліператрус.

22-гадовы Андрэй Гайдукоў працуе аператарам на наваполацкім «Нафтане». Акрамя таго, ён з'яўляецца намеснікам кіраўніка моладзевага аб'яднання «Саюз маладых інтэлектуалаў», вучыцца ў Полацкім дзяржаўным універсітэце, паведамляе «Еўрарадыё».

Па словах Таццяны Севярынец, абодва арыштаваных актыўнага ўдзелу ў дзейнасці аргкамітэта па стварэнні партыі БХД не прымалі.

### ВАЛЕР БУЛГАКАЎ



Былы галоўны рэдактар часопіса «ARCHE» Валер Булгакаў з'ехаў з Беларусі. Булгакаў паведаміў Радыё «Свабода», што да такога ўчынку яго вымусіла следства, якое ўлада ўсчала супраць ін_тэлектуальнага выдання.

«Маё рашэнне не з'яўляецца апошнім і канчатковым. Выклікана яно той акалічнасцю, што на пазамінулым тыдні беларускія тэлеканалы ажыццявілі прапагандысцкі залп па маёй сціплай асобе. Нагадаю, што 23 і 27 кастрычніка мінулага месяца па беларускім тэлебачанні ў праграме "Зона Ікс" двойчы паказваліся рэпартажы, якія тычыліся маёй асобы непасрэдна. У адным з іх сцвярджалася, што я — галоўны фігурант так званай «кніжнай справы». А ў наступным ужо рабіўся акцэнт, што гэтая «кніжная справа стала крымінальнай». Вакол маёй сціплай асобы стварылася сітуацыя не вельмі здаровая псіхалагічна. Пры такіх абставінах мне было цяжка знаходзіцца ў краіне. Гэта быў занадта вялікі псіхалагічны ціск для мяне. Я часова вырашыў ад'ехаць. Як далей будзе развівацца сітуацыя, залежыць ад таго, ці пойдуць нашы праваахоўныя органы на абвастрэнне сітуацыі, ці не», — патлумачыў Валер Булгакаў.

Валера Булгакава 18 кастрычніка гаспадарчы суд Гродзенскай вобласці аштрафаваў паводле абвінавачання ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці — за продаж кніг і часопіса. Штраф склаў пяць базавых велічынь, або пяцьсот тысяч рублёў. Падаткоўцы таксама арыштавалі больш за пяць тысяч асобнікаў кніг і часопісаў.

### ЗМІЦЕР ВАЙЦЮШКЕВІЧ



Выйшаў у свет новы альбом Змітра Вайцюшкевіча і WZ-Orkiestra «Ваячак». Дыск запісаны на вершы польскага паэта Рафала Ваячака, а фотасесія да яго была зроблена ў беластоцкай вар'ятні.

Рафал Ваячак (1945–1971) — адзін з найбольш інтрыгуючых і таямнічых польскіх паэтаў XX стагоддзя, яскравы прадстаўнік так званых «праклятых паэтаў». Алкаголік, правакатар, скандаліст, які неаднаразова лячыўся ў вар'ятні і са школьных гадоў здзяйсняў спробы самагубства. Уласную смерць ён зрабіў адной з галоўных тэмаў сваёй эпатуючай, але вытанчанай у літаратурным сэнсе паэзіі.

«Мне заўжды цікава паказаць менавіта чалавечыя моманты ў творчасці кожнага паэта, — распавёў Вайцюшкевіч. — Таму Маякоўскага я пазбавіў сацыялізму, а Ваячака — пэўнай часткі дэпрэсіі. Хацелася падкрэсліць, што ён быў у тым ліку выдатным лірыкам — у яго шмат вершаў пра жанчын, пра жаночае цела. Але пэўныя моманты «псіхадэліі» ўсё ж прысутнічаюць — увасобіць іх у музыцы дапамог вядомы гітарыст Сяргей Кананoвіч».

Ад ідэі альбома да яго выдання прайшло шэсць гадоў. Для запісу гэтай працы Зміцер вывучыў польскую мову, але ў працэсе вырашыў заспяваць на беларускай — вершы пераклалі Андрэй Хадановіч і Вальжына Морт. Аздабленне для альбома зрабіў вядомы польскі беларус Юрка Асеннік, лідар гурта «Zero–85».

«Фотасесію для аздаблення мы рабілі ў вар'ятні ў Беластоку. На вокладцы — сапраўдны тамтэйшы ключ ад дзвярэй, без якога нельга патрапіць з калідора ў пакой ці наадварот. Гэта і артэфакт, і метафара альбома. У музычным сэнсе мы спрабавалі вынайсці менавіта такі ключ да паэзіі Ваячака, адчыніць яе для беларускага слухача», — тлумачыць Зміцер.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЗАГАДАНА ВЫЖЫЦЬ

Сяргей НІКАЛЮК

**Гамлетаўскае пытанне «Быць ці не быць?» зноў актуальнае, але сёння ўлада спрабуе знайсці на яго адказ пры дапамозе мадэрнізацыі.**

11 кастрычніка скептыкі з «пятай калоны» (у іх ліку і аўтар «азбукі паліталогіі») былі пасаромленыя. Як легендарная птушачка, якая захацела ляцець наўпрост на сонца, кіраўнік маленькай, але ганарлівай краіны заявіў, што на павестцы дня стаіць *«колоссальная историческая задача — модернизация страны, прорыв Беларуси в элитный клуб высокоразвитых стран»*.

Ну як тут не парадавацца за дзяцей і ўнукаў! Іх узровень жыцця павінен вырасці мінімум у сем разоў! Чаму ў сем? А ўсё вельмі проста. Звернемся па тлумачэнне да інфармацыйнай памыйніцы, г. зн. да інтэрнэту. У 2010 годзе, паводле разлікаў МВФ, Беларусь па намінальным ВУП на душу насельніцтва займала 79-е месца (5,6 тысячы долараў). Абмяжуем *«элитный клуб высокоразвитых стран»* першай дваццаткай. Яе замкнула Ісландыя, у якой 39,6 тысячы долараў на сярэднестатыстычную ісландскую душу. Калі падзяліць другі паказчык на першы, мы і атрымаем неабходны каэфіцыент.

Скрупулёзныя людзі, аднак, мяне папраўляць: параўноўваць, маўляў, варта не намінальныя значэнні ВУП, а разлічаныя па парытэце пакупной здольнасці. З імі можна пагадзіцца. У 2010 годзе паводле гэтага паказчыку Беларусь займала 62-е месца (13,9 тыс.), а на 20-м была Вялікабрытанія (35,1 тыс.). Гэта ўжо «цяплей», бо недасяжны каэфіцыент 7 рэдукуецца да 2,5.

## Пяць прыкметаў поспеху

Такім чынам, задача пастаўленая. Засталося разабрацца, якімі сродкамі яе дасягнуць. Зноў звернемся да спісу МВФ (паводле намінальнага паказчыку). За выключэннем Катара і ААЭ, чый прарыў у элітны клуб аплачаны нафтавымі прыбыткамі, астатнія краіны дваццаткі — спрэс дэмакратыі, прычым не ў беларускім, а ў заходнім разуменні.

Якім чынам дэмакратыя спрыяе эканамічнаму росту? Звернемся па дапамогу да нобелеўскага лаўрэата Дугласа Норта. Гістарычны поспех Англіі і паразу Іспаніі ён растлумачыў «памылкай першапачатковага інстытуцыянальнага выбару». У XVI стагоддзі краіны-суперніцы былі вельмі падобныя, але іх размежавала пытанне наконт падатаў. У Іспаніі падаткі размяркоўваў кароль, у Англіі — парламент, г. зн. орган, які выказваў інтарэсы падаткаплатнікаў. У выніку прыбыткі ад калоній Іспанія змарнавала на эфектныя, але не эфектыўныя праекты, а ў Англіі яны пайшлі на фінансаванне прамысловай рэвалюцыі.

Але перанясемся з мінулага ў сучаснасць. У 2008 годзе Сусветны банк апублікаваў даклад Камісіі па эканамічным росце і развіцці, у якім абагульняўся досвед 13 краін, якія растуць на працягу 25 гадоў з хуткасцю не ніжэй за 7 працэнтаў. Аўтары дакладу знайшлі пяць агульных рысаў эканамічнага поспеху.

Па-першае, лідары ўстойлівага росту цалкам выкарыстоўвалі магчымасці ўключэння ў сусветную гаспадарку. Па-другое, яны падтрымлівалі макраэканамічную стабільнасць. Патрэцяе, яны здолелі пазбегнуць нярынкавага размеркавання рэсурсаў (аб'яднанне ўлады і ўласнасці заўсёды прыводзіць да перакосаў рынку). Чацвёртая рыса — гэта высокая норма зберажэння. Да прыкладу, кітайскія хатнія гаспадаркі накіроўваюць на дэпазіты прыкладна 40% сваіх прыбыткаў.

Пятая рыса — наяўнасць нацыянальнага кансенсусу наконт доўгатэрміновых мэтаў развіцця. Дзве апошнія прыкметы ўстойлівага росту сведчаць пра тое, што людзей пераканалі: варта адмовіцца ад імгненных выгадаў і паверыць у магчымасць укладаць у будучыню. Прычым насельніцтва павінна быць гатовае не проста зберагаць, а ператвараць зберажэнні ў доўгатэрміновыя вытворчыя інвестыцыі.

## У рэжыме tet-a-tet

Нескладана заўважыць, што ніводная з пяці прыкмет не з'яўляецца моцным бокам беларускай сацыяльна-эканамічнай мадэлі. І макраэканамічная стабільнасць — не выключэнне. Дастаткова прыгадаць 2011 год з яго гіперінфляцыяй і абвалам рубля.

Дарэчы, а якая была роля беларускага парламента ў страце фінансавай стабільнасці ў 2011 годзе? Прыкладна такая ж, як і картэсаў пры іспанскіх манархах. Падмацую сказанае цытатай: «Іспанская пяхота XVI стагоддзя была, паводле агульнага прызнання, лепшай у Еўропе. Тым не менш, хранічнае пераабкладанне іспанскіх сялян, якое прывяло да эрозіі падатковай базы і фінансавага крызісу — выдаткі на войска ў некалькі разоў перавышалі прыбыткі іспанскага бюджэту, — зрабіла непазбежнай паразу Іспаніі ў барацьбе за гегемонію ў Еўропе. Тым часам становіцца зразумела, што менавіта фінансавыя магчымасці — ключавая перадумова ваенных перамог». Так мяркуе Ягор Гайдар.

Гэту ж думку неаднаразова выказвае і Томас Гобс, сучаснік апісаных падзей: «Лондан і іншыя гандлёвыя гарады захапляліся росквітам Нідэрландаў, якога краіна дасягнула пасля звяржэння свайго манарха, караля Іспаніі. Яны былі пераканаhistory, што падобныя змены ў сістэме кіравання дазволяць і ім дамагчыся такога ж росквіту». «Шырыцца перакананасць у тым, што прадстаўнічы орган у той ці іншай форме павінен абмяркоўваць не толькі неабходнасць надзвычайнага падаткаабкладання, але і мэтазгоднасць выдаткаў, у першую чаргу вайсковых, на якія гэтыя падаткі будуць накіраваныя».

Пра ступень уключанасці Беларусі ў сусветную гаспадарку можна меркаваць па прамых замежных інвестыцыях (ПЗІ). На пачатак 2012 года на кожнага беларуса іх назапасілася 1 375 долараў. Для параўнання, у Эстоніі амаль у 10 разоў больш — 13 170 долараў. Ды і што за інвестыцыі могуць быць у краіну з адзіным палітыкам, якому да таго ж забаронены ўезд у большасць еўрапейскіх дзяржаў?

Паталагічную схільнасць беларускай улады да нярынкавага (адміністрацыйнага) размеркавання рэсурсаў не крытыкаваў хіба што гультай. Самы яскравы прыклад — паскарэнне тэмпаў росту зарплаты ў пачатку выбарчых кампаній. Наступствы перадапошняга (2010 год) паскарэння беларусы расхлёбваюць дагэтуль. Не выключана, што яны сумуюцца з наступствамі бягучага года.

Беларусы — не кітайцы. Ашчаджаць на «чорны» дзень яны не схільныя, ды і якія могуць быць доўгатэрміновыя зберажэнні ў «зайчыках»?! Тым не менш высокія стаўкі па дэпазітах у першым квартале павялічылі норму ашчаджэння ў 4,1 разу адносна мінулага года і давялі яе да 12,7%. Але гэта часовая з'ява, акрамя таго, высокія стаўкі па дэпазітах азначаюць звышвысокія стаўкі па крэдытах для прадпрыемстваў, што супрацьпаказана дзеля эканамічнага росту.

«Мы — адзіны народ!» Такая афіцыйная формула нацыянальнага кансенсусу. А калі народ адзіны, то і палітык у краіне можа быць толькі адзін. Вось як гэту асаблівасць растлумачыў у кастрычніку брытанскім журналістам наш адзіны палітык (АП): *«Демократия — вы лучше меня знаете перевод этого слова — должна быть получена от народа. От народа! Он тебе делегировал полномочия на выборах — осуществляй эту власть в интересах народа»*. Гэта значыць, ён табе, а ты яму. Пры такіх зносінах у рэжыме tet-a-tet адпадае патрэба як у палітыках, так і ў самой палітыцы.

## Арэал пражывання беларускай мадэрнізацыі

Але патрэба ў эфектыўнай эканоміцы не знікае. Адсюль папулярнасць слова «мадэрнізацыя». З прыведзенай ніжэй табліцы вынікае, што яно актыўна пераўжоўваецца ўжо трэці год запар.

Аднак што разумеюць пад мадэрнізацыяй яе ініцыятары? Звернемся да «Советской Белоруссии» як першакрыніцы афіцыйнай інфармацыі: «У слоўніках паняцце гэта па-рознаму тлумачыцца. Але ў шырокім сэнсе слова гэта не толькі перабсталяванне, але і арганізацыя выпуску прадукцыі на ўзроўні сусветных стандартаў». Такое меркаванні Аляксандра Лучанка, доктара эканамічных навук, прафесара.

КОЛЬКАСЦЬ АРТЫКУЛАЎ, АПУБЛІКАВАНЫХ У ГАЗЕЦЕ «СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ», ЯКІЯ ЗМЯШЧАЮЦЬ СЛОВА «МАДЭРНІЗАЦЫЯ»

| 2006 | 2007 | 2008 | 2009 | 2010 | 2011 | 2012* |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 87 | 93 | 91 | 83 | 160 | 155 | 106 |

*за студзень–кастрычнік

Неяк ужо вельмі звузіў прафесар шырокі сэнс, звёў яго выключна да мадэрнізацыі тэхналагічнай. Але не будзем яго асуджаць. Прафесар — чалавек сістэмы, ён не мае права выходзіць па-за інтэлектуальныя сцяжкі. Хто іх расстаўляе — зразумела. Абмяжуюся цытатай: *«Я прагматик и прекрасно это понимаю. Поэтому была поставлена задача, чтобы у каждого руководителя предприятия, от маленького до БелАЗа, на столе лежал план модернизации и финансовый расчет»*.

Арэал пражывання беларускай мадэрнізацыі абмежаваны тэрыторыяй прадпрыемстваў. Тут прамая аналогія з нямецкай слабадой часоў Аляксея Міхайлавіча (другая палова XVII ст.). Высокі плот. Уваход па пропусках. Інакш мадэрнізацыю ў шырокім сэнсе (г.зн. працэс пабудовы грамадства мадэрну) у межах вузкага сэнсу не ўтрымаць.

Галоўнае пытанне любой мадэрнізацыі — гэта пытанне яе суб'екта. На Захадзе ў ролі суб'екта выступала і працягвае выступаць грамадства. У Савецкім Саюзе, як і ў Расійскай імперыі, мадэрнізацыя заўсёды разгортвалася ў адказ на выклік Захаду, таму яна праводзілася наўздагон (Пятроўская, Сталінская). Зразумела, што яе ініцыятарам выступала эліта ў асобе бюракратыі. Яна і праводзіла свае рэфарматарскія праекты нягледзячы на супраціў грамадства, якое пры гэтым даводзілася ламаць праз калена.

Трыумфальная перамога АП на прэзідэнцкіх выбарах у 1994 годзе — гэта ахоўная рэакцыя беларускай «большасці» ад непазбежнасці мадэрнізацыі. Упершыню гэта непазбежнасць была ўсвядомленая не толькі элітай, але і грамадствам. Ці варта пасля гэтага дзівіцца, што ва ўмовах электаральнай дэмакратыі «большасць» прагаласавала за палітыка, які паабяцаў спыніць рынкавыя рэформы?

На расійскіх датацыях нерэфармаваная беларуская эканоміка дацягнула да канца нулявых гадоў. Але ўсё заканчваецца. Тут варта пагадзіцца з асноўнай высновай мемарандума Сусветнага банка, што быў апублікаваны ў ліпені: «Пры адсутнасці структурных рэформаў эканоміка вычарпала свой патэнцыял росту».

Наверсе ўладнай «вертыкалі» гэта добра разумеюць, але правядзенне структурных рэформаў будзе азначаць перакваліфікацыю ўлады з абаронцы «большасці» ў яе далакопа. Адсюль імкненне і рыбку з'есці, і ногі не замачыць (не выпусціць мадэрнізацыю за межы завадскіх прахадных). Падагульню сказанае чарговай цытатай: *«Сегодня задачу поставили. Её надо выполнить и доложить народу, что она выполнена. Тогда мы имеем право на жизнь как власть»*. З гэтым цяжка спрачацца. Але акрамя права ўлады (у яе цяперашнім выглядзе) на жыццё, існуе і права грамадства на будучыню. І паміж сабой гэтыя правы не стасуюцца.

КАНФЛІКТ

# ЭМІГРАЦЫЙНЫЯ КРЫТЫКІ

Вольга ХВОІН

**Пасля палітэміграцыі ў Вялікабрытанію на экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава пасыпалася крытыка з боку беларускай дыяспары.**

Так, лідар партыі КХП—БНФ Зянон Пазняк заявіў, што Саннікаў цяпер за мяжой толькі стварае перашкоды. «Думаю, што ад Саннікава будзе толькі шкода. Ніякай карысці не будзе. Ён не разумее, што такое эміграцыя і ўвогуле — хто тут ёсць. Таму хай лепш спачатку агледаецца», — цытуе Пазняка «Еўрарадыё». Каб зразумець, дзе ён зараз апынуўся і хто ёсць наўкол, новаму палітуцекачу неабходны час агледзецца. Для Саннікава стала вялікай нечаканасцю і турма, і эміграцыя. Таму — хай пакуль «акліматызуецца», мяркуе лідар КХП—БНФ.

3 лістапада прадстаўнікі беларускай апазіцыі і Рады БНР падпісалі ў Вільні сумесны мемарандум «Аб мерах па забеспячэнні незалежнасці Беларусі». Лідар «Еўрапейскай Беларусі», экс-кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў адмовіўся падпісваць гэты дакумент, назваўшы яго недапрацаваным, непісьменным і нават шкодным. Да ўсяго, палітык абражаны тым, што арганізатары віленскай сустрэчы не дапусцілі да перамоў прадстаўніка «Еўрапейскай Беларусі».


Івонка Сурвілла, старшыня Рады БНР


Андрэй Саннікаў

Рада БНР на ігнор з боку Саннікава таксама адрэагавала крытыкай. Крытыкуючы Віленскі мемарандум, Андрэй Саннікаў ігнаруе сучасныя пагрозы для суверэнітэту Беларусі. Пра гэта гаворыцца ў заяве сакратарыята знешніх спраў Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

Сакратарыят знешніх спраў Рады БНР заявіў, што крытыка Саннікава ў частцы пункта мемарандума аб мерах для дадатковых міжнародных гарантый непарушнасці беларускага нацыянальнага суверэнітэту «ігнаруе ўтрыманне тых пагроз для суверэнітэту, зыходзячы з якіх сфармуляваны гэты пункт».

«Выніковы тэкст мемарандума гаворыць аб імкненні да гарантый, спрыяльных для забеспячэння непрызнання міжнародна-прававой сілы любых небяспечных для суверэннай статусу Беларусі рашэнняў, якія ад яе імя можа зрабіць аўтарытарнае кіраўніцтва, а таксама непрызнання легітымнасці любых шкодных для суверэнітэту Беларусі правоў і прывілеяў, якія Расійская Федэрацыя можа сцвярджаць або дамагацца ў Беларусі на аснове дактрыны «зоны асаблівых інтарэсаў», — гаворыцца ў заяве сакратарыята.

У ёй падкрэсліваецца, што Будапешцкі мемарандум ад 5 снежня 1994 года, на які, відавочна, спасылаецца Саннікаў, «на жаль, не прадугледжвае і не мае на ўвазе практычна нічога для захавання беларускага нацыянальнага суверэнітэту ад адмысловых відаў небяспекі, названых у Віленскім мемарандуме». Як паказвае структура Рады БНР, дакумент 1994 толькі «пацвярджае» павагу з боку ЗША, РФ і Вялікабрытаніі незалежнасці і суверэнітэту Беларусі па Заключнаму акту АБСЕ. Прычым тыя, хто падпісаў дакумент, адмаўляюцца ад пагрозы або прымянення сілы ў дачыненні да тэрытарыяльнай цэласнасці (межаў) і палітычнай незалежнасці ці падпарадкавання суверэннай палітыкі беларускай дзяржавы сваім мэтам шляхам аказання эканамічнага ціску і абяцаюць садзейнічаць Беларусі праз механізмы ААН, калі яна стане ахвярай агрэсіі.

«Кіраўніцтва Рады не атрымлівала ніякіх заўваг Саннікава на дасланы разам з запрашэннем праект мемарандума, першапачатковая версія якога таксама ўтрымлівала раскрытыкаваныя ім пункты», — адзначаецца ў заяве.

Рада БНР у чарговы раз пацвярджае, што застаецца адкрытай да супрацоўніцтва з беларускімі партыямі і грамадскімі аб'яднаннямі ў справе абароны незалежнасці Беларусі, паведамляе БелаПАН.

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# НЕПАЎНАВАРТАСНЫЯ АДНОСІНЫ

Вольга ХВОІН

**Польшча не фінансуе беларускую апазіцыю, грантавыя грошы на праекты атрымліваюць прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці, заявіў 14 лістапада на прэс-канферэнцыі надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Польшча ў Беларусі Лешак Шарэпка. Паводле яго слоў, звычайна праектная дакументацыя празрыстая і даступная для азнаямлення. У выпадку ж з беларускімі партнёрамі грантадаўцы вымушаныя думаць пра іх бяспеку і хаваць інфармацыю ад староннiх вачэй.**

Так польскі пасол адказаў на пытанне аднаго з дзяржаўных журналістаў, якое тычылася дакумента, што нядаўна з'явіўся ў інтэрнэце. У ім былі абнародаваныя звесткі аб фінансавай дапамозе польскага МЗС, у тым ліку беларускай апазіцыі. Журналіст, у прыватнасці, пацікавіўся, ці не з'яўляецца гэта, з пункту гледжання пасла, умяшаннем ва ўнутраныя справы Беларусі.

— Калі размова ідзе не пра Беларусь, мы друкуем падобныя дакументы. Вашы спецслужбы такую інфармацыю выкарыстоўваюць у барацьбе з грамадзянскай супольнасцю. Таму ў выпадку з Беларуссю мы мусім ахоўваць падобную інфармацыю. Мы не фінансуем беларускую апазіцыю, мы фінансуем грамадзянскую супольнасць, а гэта розныя тэрміны, — падкрэсліў дыпламат.

Лешак Шарэпка адзначыў, што цяпер фон адносінаў паміж Беларуссю і Польшчай вызначаюць міжнародныя інстытуцыі, гэта не толькі ЕС, але і ААН. Так, Савет па правах чалавека ААН заснаваў пасаду спецдакладчыка па правах чалавека ў Беларусі. «Абстаноўка з правамі чалавека ў Беларусі была на абмеркаванні ў іншых арганізацыях. Як вы ведаеце, ацэнка АБСЕ апошніх выбараў не вельмі добрая, іх высnова — Беларусь не выкарыстала сваіх магчымасцяў. На гэтым тле Еўрасаюз мае свой пункт гледжання на развіццё адносінаў: мы чакаем, што тут не будзе палітычных вязняў, а пацярпелыя будуць рэабілітаваныя, змогуць прымаць удзел у палітычным жыцці краіны. Польшча ў поўнай меры гэта падтрымлівае, мы чакаем, што будуць прынятыя рашучыя крокі з боку Беларусі. Мы думаем, што Беларусь ёсць часткай еўрапейскай сям'і, а ў Еўропе крыху іншыя стандарты. Нават Расія пагадзілася ўвесці мараторый на смяротную кару, каб мець магчымасць уплываць на працу Савета Еўропы», — заявіў польскі дыпламат.

Ён заўважыў, што з канца 1990-х гадоў адносіны Беларусі і Польшчы «не да канца паўнавартасныя».




«Мы б хацелі, каб адносіны былі лепшыя, бо гэта было б на карысць нашым краінам, — працягнуў Лешак Шарэпка. — Польшча ёсць адным з важнейшых гандлёвых партнёраў Беларусі. Летась наш тавараабарот склаў 3,2 мільярда долараў, сёлета можа быць невялікі спад. Але, мяркую, калі зменіцца палітычны, інвестыцыйны клімат, то польскі бок будзе зацікаўлены ў развіцці дзелавых адносінаў. Эксперты ацэньваюць, што без намаганняў можна будзе павялічыць абарот у два разы. Але гэта найперш звязана з інвестыцыйным кліматам у Беларусі».

Лешак Шарэпка мяркуе, што Мытны саюз — добрая нагода для прысутнасці польскага бізнэсу ў Беларусі. «Але польскі бізнес на 80 працэнтаў прыватны, дзяржава не надта можа ўплываць на яго. І калі людзі зацікаўленыя, яны прыхodзяць. Мы можам толькі дапамагаць, каардынаваць. Але ў нас цяпер увогуле праблемы з тым, каб гаварыць на высокім узроўні, а ў Беларусі сітуацыя такая, што часта эканамічныя пытанні трэба вырашаць акурат на самым высокім узроўні. Мы зацікаўленыя ў энергетычным супрацоўніцтве. Я ў многіх сферах гатовы супрацоўнічаць з беларускімі ўладамі, незалежна ад таго, якая тут палітычная абстаноўка», — адзначыў польскі дыпламат. Паводле яго слоў, на беларускім рынку цяпер працуюць блізу 200 польскіх фірм, ёсць сярод іх і буйныя кампаніі з салідным капіталам, напрыклад, мэблевая фірма «Black Red White».

Па словах польскага пасла, не надта добры палітычны ўзровень стасункаў уплывае і на іншыя пытанні, напрыклад, консульскія. Апошнія гады імкліва расце колькасць жадаючых атрымаць польскія візы. У 2011 годзе было выдадзена больш за 300 000 візаў польскім консульствам у Мінску, а за 10 месяцаў бягучага года — 294 000 візаў. Польскае консульства хацела б павялічыць штат супрацоўнікаў, але беларускі бок адпаведнага рашэння не дае.

«Беларусь не зацікаўленая, каб весці лібералізацыю ў візавых пытаннях, — заявіў польскі дыпламат. — З ліпеня мінулага года ёсць прапановы Еўрасаюза пачаць перамовы наконт лібералізацыі візавага рэжыму, але беларускі бок не рэагуе на гэта. Наконт малога памежнага руху: польскі бок завяршыў юрыдычныя працэдуры восенню 2010 года, беларускі бок быццам бы таксама падпісаў дакументы. Але мусіць быць абмен нотамі, каб працэс увайшоў у жыццё. Мы пыталіся, чаму не рухаемся далей, і нам прамым тэкстам у МЗСе казалі, што гэта звязана з палітычнымі працэсамі. У аднабаковым парадку гэта немагчыма зрабіць».

Каментуючы ініцыятыву ЕС «Дыялог аб мадэрнізацыі Беларусі» Лешак Шарэпка адзначыў, што «гэта форма падтрымкі дыялога з беларускім бокам». «Старт быў у сакавіку, цяпер тут працуюць рабочыя групы — прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці. Але ўлады гавораць, што гэты праект узнік без іх удзелу, і таму яны адмаўляюцца ад яго. Мне цяжка сказаць, што будзе далей, але мы будзем спрабаваць супрацоўнічаць, бо ёсць ідэя стварыць праект рэформаў у розных галінах. Мы будзем дапамагаць фінансава, але я не ведаю, чым гэта завершыцца», — заўважыў дыпламат.

Між іншым, сёлета 20-я ўгодкі ўстанаўлення дыпламатычных адносінаў Польшчы і Беларусі, падпісання дамовы добрасуседства з Беларуссю. Сёлета ж польскае пасольства ўпершыню яшчэ з савецкіх часоў змяніла свой юрыдычны адрас. Цяпер пасольства Польшчы ў Мінску будзе месціцца на вуліцы Бядулі, 11, пакуль жа дыпламаты будуць працаваць у памяшканнях консульства на Крапоткіна.

ЯК ЖЫВУЦЬ НАШЫ СУСЕДЗІ

# САВЕЦКІЯ КРЫЎДЫ, ЕЎРАПЕЙСКІЯ СПАДЗЯВАННІ

Вольга ХВОІН

**«Латышы, як і беларусы, — цярплівая нацыя. Вам гэта перашкаджае зрабіць крок да развіцця, а нам дапамагло пераЖыць крызіс», — гаворыць латышскі гісторык Імантс Брэйдакс, разважаючы пра нацыянальныя адметнасці характару сваіх суайчыннікаў. Іншыя суразмоўцы адзначаюць, што жыхары Латвіі моцна прывязаныя да савецкага мінулага і крыўдаў, датычных таго часу, што перашкаджае краіне рухацца наперад. Тым не менш выказваецца надзея, што праз 20 гадоў Латвія адступіць ад падзелу «рускі-латыш», які цяпер закранае многія сферы жыцця. Ды стане падобнай да паспяховай Эстоніі, якая не замарочвалася на гэтым пытанні, а знайшла сабе «куміра» і паспяхова рухаецца ў бок топавых Nordic countries.**

Латышска-руская тэма за час візіту ў Латвію гучала ад пачатку і даволі часта. Аж да выразаў, што тут «латыш — не нацыянальнасць, а прафесія», маўляў, толькі гэта гарантуе табе і прывілеі, і шанцы на дабрабыт.

— Фактычна ад 1991 года ў кіраўніцтве Латвіі былі правыя. Склалася так, што правыя — гэта традыцыйна латышы, а левых поглядаў трымаюцца выхадцы з постсавецкіх краін. Латвія многа ў чым жыве мінулым — затаіла крыўду яшчэ з часоў СССР і вакол гэтага круціцца. І людзі цяпер не жывуць будучым, а жывуць мінулым. Адпаведна, партыі, якія граюць на гэтых пачуццях, знаходзяць свой водгук, — разважае пра адметнасці падзелу грамадства Яніс Кузінс, адзін з кіраўнікоў "Аб'яднання супраць нацызму ў Латвіі", па сумяшчальніцтве прафсаюзны лідар і былы дэпутат юрмальскай думы. Кузінс бачыць незбалансаванасць у знешняй палітыцы дзяржавы акурат з-за старых крыўдаў і жадання зрабіць нешта ў піку «вялікаму суседу».

«Мы вяртаемся да рэваншызму — далей ад Расіі і бліжэй да Захаду. Я думаю, што нам трэба актыўна супрацоўнічаць з Расіяй і больш адстойваць сябе ў ЕС. У гэтым можна браць прыклад з Польшчы, якая добра змагаецца за свае інтарэсы. Нашаму кіраўніцтву цяпер галоўнае — увайсці ў еўразону. Але, мяркую, па пытанню ўвядзення еўра варта было б правесці рэферэндум, добра падумаць перад такім крокам, бо гэта традыцыйна прыводзіць да росту цэн. А Латвія цяпер па ўзроўні жыцця недзе побач з Румыніяй», — гаворыць малады палітык. Яніс Кузінс крытыкуе найперш не сам факт уступлення ў ЕС, а недальнабачнасць кіраўніцтва дзяржавы, з-за чаго цяпер трэба думаць пра тое, як вырашаць новыя праблемы.

Адна з іх, характэрная для многіх краін другога эшалону ў ЕС, — міграцыя моладзі. «Нешта рабіць у гэтым кірунку для ўтрымання эканамічна актыўнага насельніцтва ўжо позна, — перакана765 Кузінс. — Гэтыя людзі там аселі, завялі сем'і і наўрад будуць масава вяртацца. А краіне не хапае працоўнай сілы, каб забяспечваць працу вытворчасцяў. Нам застаецца хіба што адкрываць межы для эмігрантаў. Я не ведаю прыхільнікаў ідэі пускаць сюды пакістанцаў, але, каб краіна развівалася, патрэбныя людзі, якія будуць працаваць, напаўняць бюджэт».

Андрыс Спрудс, прафесар Рыжскага ўніверсітэта імя Страдыня, кіраўнік Латвійскага інстытута міжнароднай палітыкі падкрэслівае, што міграцыйныя працэсы цяпер характэрныя для ўсяго свету, які стаў глабальным і адкрытым. Аднак сяброўства ў важкай геапалітычнай структуры дае маленькай Латвіі і свае бонусы. «Людзі едуць з Латвіі не таму, што мы ў ЕС. Пытанне ў дабрабыце і свабодзе: калі тут беспрацоўе, але ёсць магчымасць паехаць у іншую краіну і там атрымаць і працу, і больш заробак, то чаму не? Многія з гэтых людзей вяртаюцца. Статыстыка паказвае, што пасля ўступлення ў ЕС з Латвіі з'ехалі блізу 250 тысяч чалавек, гэта прыкладна 10 працэнтаў ад колькасці ўсяго насельніцтва. Вярнуліся прыкладна 50–60 тысяч чалавек, у іншых еўрапейскіх краінах таксама ёсць падобныя праблемы, — адзначае Андрыс Спрудс. — Адкрыты рынак — гэта важная і пазітыўная рэч, на 70–80 працэнтаў знешні гандаль завязаны на ЕС. Мы атрымліваем субсідыі на дарогі і іншыя сацыяльныя праекты. Так, ёсць выклікі, напрыклад, больш складана стала выкарыстоўваць інструменты пратэкцыянізму. Але ў цэлым мы больш атрымалі, чым страцілі ад сяброўства ў Еўрасаюзе. І галоўнае — у нас ёсць выбар. Хоча чалавек з'ехаць — свет адкрыты, хоча гандляваць з іншай краінай — межаў няма».

— Мы сталі больш заходнімі, пачалі жыць, як у Еўропе, але народ гэтага асабліва не адчуў, бо пенсіі і заробкі нізкія. Пенсія ў Латвіі складае блізу 300 долараў, але аплата камунальных можа забіраць амаль усю пенсію. Сярэдні заробак прыкладна 600–800 долараў, там нам цяпер не хапае добрага кіраўніцтва, якое б думала пра свой народ, — падкрэслівае Яніс Кузінс.

Да слова, Латвійская канфедэрацыя незалежных прафсаюзаў, якую ўзначальвае Кузінс, пачала збор подпісаў за роспуск парламента. Аргумент: абраннікі народа не апраўдалі чаканняў.

## Супольная спадчына СССР

Гісторык Імантс Брэйдакс робіць невялікі экскурс у мінулае Латвіі, тлумачыць, чаму такая моцная зачэпка за СССР і крыўды, звязаныя з той эпохаю: «Латышы мелі сваю дзяржаву, савецкая ўлада прыйшла сюды, калі мы развіваліся, і гэта спыніла. Таму ўвесь гэты час нацыянальна арыентаваныя сілы мелі крыўду, адчуванне абарванага палёту. І вось хіба што цягам апошніх гадоў з'явілася ўпэўненасць, што мы можам нагнаць страчаныя гады магчымасцяў».

Абмяркоўваючы адметнасці нацыянальнага характару латышоў, Імантс смяецца, калі распавядае, што і ў іх ёсць прымаўка пра шчасце латыша, калі «карова ў суседа здохла».

— З часоў СССР у нас засталося негатыўнае стаўленне да дзяржавы. Цяпер нашы жыхары вельмі скептычна глядзяць на кіраўніцтва Латвіі. Тым больш, што ў нас няма абавязковага пазітыўнага прамывання мазгоў, як тое ёсць у Беларусі. І вось людзям можа б і хацелася пачуць пазітыўную прапаганду, да якой яны прывыклі, але няма. І падаецца, што ўсё вакол кепска. Яшчэ мы за савецкі час навучыліся быць цярплівымі. Як і беларусы, — усміхаецца гісторык. — Толькі вам гэта перашкаджае ў руху наперад, а нам, можна сказаць, дапамагло пераЖыць эканамічны крызіс. У Францыі ці Грэцыі людзі думаюць, што ўрад ім вінен і мусіць іх баяцца, таму адразу ідуць змагацца на вуліцы. А латышы, як і беларусы, у негатыўных сітуацыях трываюць і чакаюць.

## Узор латышскай мары

Цярплівыя латышы маюць аб'ект для зайздрасці, свой узор маленькага Эдэму. Гэта — Эстонія. Нават жарт ёсць наконт таго, каб «пазычыць эстонскага кіраўніка латышам».

— Эстонія абрала сабе куміра, на якога раўняецца, — скандынаўскія краіны. Ёсць забаўны прыклад з працы эстонскага парламента: была дыскусія па пытанню сэксуальных меншасцяў, і дэпутаты не хацелі прымаць пазітыўнае рашэнне, трымаліся кансерватыўнай пазіцыі. Довады, што гэта правы чалавека, што ЕС не зразумее, плёну не мелі. Калі ж сказалі, што не ўхваліць Фінляндыя, то парламентарыі хутка прыйшлі да кансенсусу. Гэта працуе, дапамагае краіне развівацца ў зададзеным кірунку. У нас няма падобнага арыенціру. Мы — неаднародная нацыя, таму ўзяць нейкі прыклад нам складана. У 1990-я гады ў нечым за прыклад мы ўзялі Амерыку. Але гэта было не вельмі слушна, бо амерыканская мадэль свабоднай эканомікі не пасуе для еўрапейскай краіны, тым больш з постсавецкага лагеру. Нам усё ж патрэбная дзяржава ў ролі начнога стоража, — разважае гісторык Імантс Брэйдакс.

Андрыс Спрудс таксама ўзгадвае як прыклад Эстонію. «Латвія мусіць быць арыентаваная на сферу паслуг, балтыйскія краіны ніколі не будуць прамыслова арыентаванымі, бо яны невялікія, не маюць патрэбнага сыравіннага рэсурсу. Пасля эканамічнага крызісу нашы вытворцы зразумелі, што трэба спецыялізавацца, а не рабіць нешта распаўсюджанае. Эстонія, напрыклад, заўсёды падкрэслівае, што іх вынаходніцтва skype стала папулярным сервісам ва ўсім свеце. Эстонія, дарэчы, за час паспяховых гадоў змагла стварыць сабе запас, каб пераЖыць крызіс, чаго не зрабілі мы. Канешне, мы вельмі залежныя ад таго, што адбываецца ў Еўрасаюзе, але і без сяброўства гэта ўплывала б на нас», — падкрэслівае кіраўнік Латвійскага інстытута міжнароднай палітыкі.

Варта адзначыць, што сярод маіх візаві еўраптымістамі былі ў асноўным маладыя, адукаваныя людзі. Старэйшае пакаленне ці з жалем узгадвала савецкую веліч, ці пакорліва распавядала пра праблемы, з якімі даводзілася сутыкнуцца пасля набыцця незалежнасці. І ЕС тут сапраўды не пры чым. Пра гэтыя прэтэнзіі да ўладаў Латвіі распавядзём у наступных артыкулах. Цяпер жа слова дадзім тым, хто бачыць у сяброўстве ў Еўрасаюзе перавагі.

**Андрыс Спрудс, прафесар Рыжскага ўніверсітэта Страдыня, кіраўнік Латвійскага інстытута міжнароднай палітыкі:**

— Для мяне пытанне мэтазгоднасці сяброўства ў ЕС не стаіць увогуле. Я мяркую, той факт, што мы ўступілі ў Еўрасаюз, — адзін з найлепшых у гісторыі Латвіі за апошнія 20 гадоў. Канешне, нам даводзілася ў некаторай ступені дэлегаваць свой суверэнітэт, і таму цяпер па шэрагу пытанняў мы мусім кансультавацца з Брусэлем, наша эканоміка завязаная на Еўрасаюз. Часта як негатыўны вынік уступлення ў ЕС згадваецца цукровая прамысловасць, якую Латвія закрыла. Але была магчымасць гэтыя фабрыкі ці рэфармаваць, ці атрымаць кампенсацыю і зачыніць. Кіраўніцтва вырашыла іх зачыніць, і гэта рашэнне не ЕС, а ўладальнікаў. Кожная краіна ў Еўрасаюзе мае сваю армію, культуру, сістэму адукацыі, палітычную сістэму. Гэта засталося суверэнным. І ўзровень развіцця гэтых сфер залежыць ад таго, які кірунак абірае кіраўніцтва дзяржавы.

Цяпер наш свет арганізаваны так, што нельга збудаваць мур і забараніць людзям выязджаць, нешта браць ад іншых культур. Цяпер, можа, усё не так проста, як было за савецкім часам, калі працавала тэза: «мы савецкія людзі, мы будуем камунізм». Цяпер усё выглядае інакш. Можа, людзям сталага веку гэта няпроста прыняць, але моладзь — яны размаўляюць на некалькіх мовах, вольныя ў перамяшчэнні — гэта людзі іншай фармацыі, і гэта іхні свет.

**Гісторык Імантс Брэйдакс:**



— Латышы застаюцца еўраскептыкамі. Хаця за сем гадоў нашага сяброўства ў Еўрасаюзе мы атрымалі каля мільярду еўра ад ЕС на розныя праекты. Калі пахадзіць, напрыклад, па школах ды спытаць, за чые грошы зробленыя навамоднасці, то ў пераважнай большасці выпадкаў гэта будуць сродкі Еўрасаюза. Сяброўства ў ЕС ёсць адным з фактараў даверу да краіны з боку інвестараў. Мы ўдзельнічаем у Балонскім працэсе, ёсць больш руху, цыркуляцыі ідэй.

У нас быў вялікі спад, беспрацоўе, што спрыяла адтоку людзей. Хаця цяпер некаторыя вяртаюцца. Пачаўся павольны пад'ём эканомікі. Праз пяць гадоў панічныя настроі ў эканоміцы будуць меншыя, хаця дэпрэсіўнасць у нашым грамадстве была і ў часы эканамічнага росту. Людзі мелі негатыўныя чаканні, а потым казалі: «Вось, мы ж прадракалі». Добра, што наш урад пасля гэтых узрушэння зразумеў, што перагрaваць эканоміку не варта, лепш развіваць яе больш павольнымі тэмпамі, затое з меншымі рызыкамі. Гэта быў балючы ўрок, але карысны.

Яшчэ адзін плюс інтэграцыі з Еўрасаюзам: калі Латвія ўступіла ў ЕС, то колькасць тых, хто прайшоў працэдуры на атрыманне грамадзянства, вырасла, з'явіўся дадатковы стымул. А гэта важна для вырашэння праблемы са статусам «неграмадзянаў».

У нас ёсць паказальны прыклад: Ніл Ушакоў — мэр Рыгі, этнічны рускі. А плач па прыгнёту рускіх мне нагадвае пра імперскае мысленне, што мы больш не ўладная каста. У часы СССР тут дамінуючую ролю адыгрывала руская культура, мова. Цяпер жа няма рэцэпту, як жыць, разумець сваю краіну. Я ўсё чакаю, калі наша руская супольнасць прыдумае прывабную канцэпцыю для рускамоўных. Бо рускі ў Расіі і рускамоўны ў Латвіі — абсалютна розныя паняцці.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 19 ЛІСТАПАДА, ПАНЯДЗЕЛАК



**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.50** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Вакол планеты.
**11.25** Журналісцкае расследаванне.
**12.10** Фільм «Палёт Фенікса» (ЗША).
**14.25** «Валер Раеўскі. P.S». Хранікальна-дакументальны фільм.
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.25** Драма «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**17.25** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.30** Камандзіроўка.
**18.45, 23.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Форум.
**22.45** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.10** Дзень спорту.
**00.20** Камедыя «Маладыя» (ЗША).



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Урокі кіравання».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**18.55** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адкрыты фармат».
**22.10** АНТ прадстаўляе: «Лэдзі Ікс».
**23.10** «Вячэрні Ургант».
**23.50** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**00.45** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «МінШчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** «Вялікі горад».
**14.30** Канцэрт М.Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «МінШчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Гулякі жыцця». ЗША, 2006 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**00.05** «Глядзець усім!».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**12.00** Рамантычная драма «Мой ласкавы і пяшчотны звер» (СССР).
**14.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.40** Камедыйны серыял «Дзяўчыны».
**15.40** Дакументальны фільм «Зорнае прыцягненне».
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Прыгодніцкі баявік «Добрыя хлопцы» (Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйны серыял «Дзяўчыны».
**22.30** Авертайм.
**23.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Смак граната».
**22.20** Тэлесерыял «Земскі доктар. Працяг».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Адзін дзень Івана Дзянісавіча». 50 гадоў пасля...».



**06.00** «НТБ раніцай».
**08.35** Праграма «Максімум».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Брат за брата-2».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-2».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-2».
**00.35** Дэтэктыўны серыял «Вісякі».



**00.45, 01.15** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Макао.
**01.45** Матаспартыўнычасопіс.
**02.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Балгарыя - Фінал.
**03.15** Матаспартыўнычасопіс.
**10.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.45** Матаспартыўнычасопіс.
**11.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Макао.
**12.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры.
**13.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 132.
**14.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Балгарыя - Фінал.
**15.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг: Макао.
**16.00** Фігурнае катанне: Гран-Пры Францыі.
**17.00** Футзала: Кубак свету. Тайланд - Фінал.
**18.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры.
**18.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 132.
**19.30** Футбол.
**20.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**21.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Балгарыя - Фінал.
**22.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**23.00** Усе віды спорту.
**23.05** Пра рэстлінг.
**23.35** Усе віды спорту.
**23.45** Пра рэстлінг.



**07.00** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55** Навігатар.
**08.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.40** Дакументальная гадзіна: «Лікёрагарэлачны завод», дак. фільм, 2010 г., Швецыя.
**09.40** Два на два (тэледыскусія).
**10.05** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.00** Назад у будучыню.
**18.10** Вагон.
**18.15** Еўропа сёння.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?!».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.25** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Не прапусці! (параднік гледача).
**21.45** Фільматэка майстроў: «Фаду», дак.-музычны фільм, 2007 г., Партугалія.
**23.10** Аб'ектыў.
**23.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**00.00** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 20 ЛІСТАПАДА, АЎТОРАК



**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.15** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Расія).
**10.15** Камандзіроўка.
**10.30** Таямніцы следства.
**11.00** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма пра турызм.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.10** Рэальны свет.
**13.20** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.15** Медычныя таямніцы.
**16.40** Дакументальны серыял «Неверагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.00** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Белтэлерадыёкампанія).
**23.10** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Рэальны свет.



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Дарога ў пустэчу». Шматсерыйны фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** «Вячэрні Ургант».
**00.15** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.10** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**08.40** Фільм «Гулякі жыцця». ЗША, 2006 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** Ільм «Каханне: інструкцыя па ўжыванню». Італія, 2011 г.
**16.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Дарагі Фрэнкі». Вялікабрытанія, 2003 г.
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Аўтапанарама».
**23.30** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**00.40** «Прагнасць».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**11.05** Авертайм.
**11.35** Цела чалавека.
**12.10** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**13.00** Школа рамонту.
**14.10** Камедыйны серыял «Дзяўчыны».
**14.45** Прыгодніцкі баявік «Добрыя хлопцы» (Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**16.35** Беларуская часіна.
**17.45** Рэгіянальная праграма.
**18.45** Прыгодніцкі баявік «Добрыя хлопцы» (Украіна). 3-я серыя.
**19.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. БАТЭ - Ліль. Прамая трансляцыя.
**21.55** КЕНО.
**22.00** Тэлебарометр.
**22.05** Камедыйны серыял «Дзяўчыны».
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Ювентус - Чэлсі. Прамая трансляцыя.
**01.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Гарадок».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Таямніцы следства».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Смак граната».
**22.20** Тэлесерыял «Земскі доктар. Працяг».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Адмысловы карэспандэнт».



**06.00** «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суду».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.10** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.45** Серыял «Брат за брата-2».
**20.35** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-2».
**00.15** Сёння. Вынікі.
**00.40** Дэтэктыўны серыял «Вісякі».



**00.45** Футбол.
**01.30** Снукер: Еўрапейскі тур. Балгарыя - Фінал.
**02.45** Футбол: Еўрагалы.
**10.30** Футбол: Еўрагалы.
**11.15** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**12.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры.
**13.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 131.
**14.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**15.00** Конны спорт. Агляд тыдня.
**15.15** Футбол: Еўрагалы.
**16.00** Футзала: Кубак свету. Тайланд - Фінал.
**17.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**18.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры.
**19.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 131.
**20.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**21.00** Футбол: Еўрагалы.
**21.45** Футзала: Кубак свету. Тайланд - Фінал.
**23.00** Бокс: Чэмпіён Свету па версіі WBA.



**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Эксперт.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.30** Не прапусці! (параднік гледача).
**09.45** Еўропа сёння.
**17.50** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**18.15** На колах.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** Відзьмо-невідзьмо.
**20.00** Студыя «Белсат».
**20.30** Сальда (эканамічная праграма).
**20.50** Вагон.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова Уладзімір Мацкевіча / Максіма Жбанкова.
**21.40** «Глыбокая вада», серыял: 11 серыя.
**22.30** Форум (ток-шоў).
**23.15** Аб'ектыў.
**23.45** Невядомая Беларусь: «Выбары без выбару», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**00.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 21 ЛІСТАПАДА, СЕРАДА



**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.45** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.10** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Расія).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Белтэлерадыёкампанія).
**12.15** Рэальны свет.
**13.25** Дакументальны серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія-Германія).
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.30** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.25** Каробка перадач.
**17.00** Заўтра - гэта мы!
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.30** Адмысловы рэпартаж.
**18.45, 00.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.00** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Белтэлерадыёкампанія).
**23.10** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Рэальны свет.



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Дарога ў пустэчу». Шматсерыйны фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** «Вячэрні Ургант».
**00.15** «Забойная сіла». Шматсер. фільм.
**01.10** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Дарагі Фрэнкі». Вялікабрытанія, 2003 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.50** «Не хлусі мне!».
**14.45** «Прагнасць».
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Дамы ў ліловым». Вялікабрытанія, 2004 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Дабро пажаліцца».
**23.30** «Мінск і мінчане».
**00.00** Этап Кубка свету сярод юніёраў па канькабежным спорце.



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Следства вядзе Да Вінчы».
**10.10** Наперад у мінулае.
**10.50** Цела чалавека.
**11.25** Дэтэктыў «Задача з трыма невядомымі» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**12.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Спартак - Барселона.
**14.50** Камедыйны серыял «Дзяўчыны» (Расія). Заключная серыя.
**15.25** Прыгодніцкі баявік «Добрыя хлопцы» (Украіна). 3-я серыя.
**16.35** Беларуская часіна.
**17.45** Рэгіянальная праграма.
**18.50** Прыгодніцкі баявік «Добрыя хлопцы» (Украіна). 4-я серыя.
**19.50** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Зеніт - Малага. Прамая трансляцыя.
**21.55** Спортлато 5 з 36.
**22.00** КЕНО.
**22.05** Тэлебарометр.
**22.10** Камедыйны серыял «Дзяўчыны» (Расія). Заключная серыя.
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Манчэстар Сіці - Рэал. Прамая трансляцыя.
**01.05** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Агляд дня.



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Гарадок».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весткі.
**11.30** «ХА». Маленькія камедыі.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50, 16.50, 19.50, 00.15** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Дэтэктыўны тэлесерыял «Таямніцы следства».
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**20.30** Тэлесерыял «Смак граната».
**22.20** Тэлесерыял «Земскі доктар. Працяг».
**00.25** «Стрэлы ў Даласе. Новы след».



**06.00** «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.45** Серыял «Брат за брата-2».
**20.40** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-2».
**00.15** Сёння. Вынікі.
**00.40** Дэтэктыўны серыял «Вісякі».



**01.00** Аўта і Матаспорт.
**01.15** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**01.45** Матаспартыўны часопіс.
**02.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**03.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.30** Аўта і Матаспорт.
**10.45** Конны спорт. Агляд тыдня.
**11.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**12.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 131.
**13.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 140.
**14.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**15.00** Фігурнае катанне: Гран-Пры Францыі.
**16.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Балгарыя - Фінал.
**17.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**18.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 131.
**19.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 140.
**20.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**20.55** Усе віды спорту.
**21.25** Усе віды спорту: Абранае па серадах.
**21.30** Конны спорт: коннага спорту Штутгарт - Спаборніцтвы па скачках.
**22.30** Конны спорт: Навіны коннага спорту.
**22.35** Гольф: Тур PGA.
**23.35** Гольф: Еўрапейскі тур.



**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Відзьмо-невідзьмо.
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Сальда (эканамічная праграма).
**08.50** Вагон.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат»: Размова Уладзімір Мацкевіча / Максіма Жбанкова.
**09.40** На колах.
**18.00** Сальда (эканамічная праграма).
**18.15** Праект "Будучыня".
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Маю правa (юрыдычная праграма).
**20.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова Уладзімір Мацкевіча / Максіма Жбанкова.
**21.45** «У каго я ўрадзіўся», маст. фільм.
**22.45** Відзьмо-невідзьмо.
**23.10** Аб'ектыў.
**23.40** Рэпартэр.
**00.05** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 22 ЛІСТАПАДА, ЧАЦВЕР



**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Расія).
**10.10** Адмысловы рэпартаж.
**10.25** Патрабуецца.
**10.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.55** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Белтэлерадыёкампанія).
**12.15** Рэальны свет.
**13.25** Культурныя людзі +.
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Evrovision. Вынікі тыдня.
**15.45** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.40** Перазагрузка.
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 00.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.00** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Белтэлерадыёкампанія).
**23.10** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Рэальны свет.



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Дарога ў пустэчу». Шматсерыйны фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.35** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў.
**01.10** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**08.40** Фільм «Дамы ў ліловым». Вялікабрытанія, 2004 г.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Не хлусі мне!».
**14.35** «Дзіўная справа».
**15.25** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Пятае вымярэнне». ЗША-Канада, 2008 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** «Аўтапанарама».
**23.30** «Цэнтральны рэгіён».
**00.00** Этап Кубка свету сярод юніёраў па канькабежным спорце.



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Вышэй за дах.
**10.45** Страсці па культуры.
**11.30** Дэтэктыў «Задача з трыма невядомымі» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**12.55** Дакументальны фільм «2014. Мінск. Напярэдадні» («Беларусьфільм»).
**13.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Андэрлехт - Мілан.
**15.35** Прыгодніцкі баявік «Добрыя хлопцы» (Украіна). 4-я серыя.
**16.40** Беларуская часіна.
**17.50** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Прыгодніцкі баявік «Добрыя хлопцы» (Украіна). 5-я серыя.
**19.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Анжы - Удзінэзэ. Прамая трансляцыя.
**21.55** КЕНО.
**22.00** Тэлебарометр.
**22.05** Час футболу.
**23.00** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Марсэль - Фенербахчэ. Прамая трансляцыя.



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Гарадок».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Дэтэктыўны тэлесерыял «Таямніцы следства».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Смак граната».
**22.20** Тэлесерыял «Земскі доктар. Працяг».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Паядынак».



**06.00** «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.45** Серыял «Брат за брата-2».
**20.40** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-2».
**23.22** Сёння. Вынікі.
**23.50** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-2».
**00.45** Дэтэктыўны серыял «Вісякі».



**00.00** Гольф: Гольф Клуб.
**00.05** Ветразевы спорт: Яхт клуб.
**00.10** Абранае па серадах.
**00.30** Алімпійскі часопіс.
**01.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**02.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Балгарыя - Фінал.
**10.30** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**11.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**12.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры.
**13.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 140.
**14.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**15.00** Снукер: Еўрапейскі тур. Балгарыя - Фінал.
**16.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**17.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**18.30** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы на кароткай вадзе. Францыя.
**20.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**21.30** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**22.00, 22.30** Самыя моцныя людзі планеты: Польшча.
**23.00** Баявыя мастацтвы.: Байцоўскі клуб.



**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Маю правa (юрыдычная праграма).
**08.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.30** Студыя «Белсат»: Размова Уладзімір Мацкевіча / Максіма Жбанкова.
**09.45** Праект "Будучыня".
**17.55** Маю правa (юрыдычная праграма).
**18.15** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**19.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова Уладзімір Мацкевіча / Максіма Жбанкова.
**21.40** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 11 серыя.
**22.30** «Абарыгены», дак. фільм, 2009 г., Расія.
**23.10** Аб'ектыў.
**23.35** Два на два (тэледыскусія).
**00.00** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 23 ЛІСТАПАДА, ПЯТНІЦА



**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.40** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Расія).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.25** Патрабуецца.
**10.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**10.50** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Белтэлерадыёкампанія).
**12.15** Рэальны свет.
**13.25** Заўтра - гэта мы!
**14.00** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**15.15, 19.20** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**16.20** Каталіцкія святыні Беларусі.
**16.45** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.30** Меладраматычны серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Расія-Украіна).
**18.25, 00.10** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Камедыйны серыял «Нябесныя сваякі» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**22.00** Драма «Містычныя гісторыі» (Украіна).
**23.10** Серыял «Майстры жахаў».
**00.55** Дзень спорту.
**01.05** Рэальны свет.



**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І танна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Час абедаць!».
**13.50** «Модны прысуд».
**14.55** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Кантрольны закуп».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Дарога ў пустэчу». Шматсерыйны фільм.
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Што? Дзе? Калі?» у Беларусі.
**23.30** «Вячэрні Ургант».
**00.25** Фільм «Усё дзеля яе».
**02.05** Начныя навіны.



**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Пятае вымярэнне». ЗША-Канада, 2008 г.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.35** «Прошаная вячэра».
**12.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Не хлусі мне!».
**14.45** «Хораша жыць».
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Буча ў Гучы». Германія-Аўстрыя-Балгарыя, 2006 г.
**22.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «Пагаворым». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**23.05** «СТБ-спорт».
**23.10** Барацьба. Міжнародны турнір.
**23.45** «Перамажы Покерстарз».
**00.35** «Адмысловы праект».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**10.10** Час футболу.
**11.00** Страсці па культуры.
**11.40** Баявік «Дзэртыр» (Расія - Малдова - Балгарыя).
**13.15** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Лацыё -Тотэнхэм.
**15.15** Прыгодніцкі баявік «Добрыя хлопцы» (Украіна). 5-я серыя.
**16.20** Беларуская кухня.
**16.55** Рэгіянальная праграма.
**17.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**20.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**21.25** КЕНО.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.45** Фактар сілы.
**23.15** Арэна.
**23.45** Біяграфічная драма «Трынаццаць» (ЗША).




**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Гарадок».
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Аператыўнікі. Хронікі забойнага аддзела».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Дэтэктыўны тэлесерыял «Таямніцы следства».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.45** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Смак граната».
**22.25** «Юрмала-2012». Фэст гумарыстычных праграм.
**00.20** Навіны - Беларусь.
**00.30** Фільм «Маўкун» (2007 г.).




**06.00** «НТБ раніцай».
**08.45** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**10.00** Сёння.
**10.20** «І зноў добры дзень!».
**11.10** «Да суду».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Брат за брата-2».
**21.15** Дэтэктыўны серыял «Дзікі-2».
**00.00** Вострасюжэтны фільм «Сваяк».




**01.00** Покер.
**02.05** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы на кароткай вадзе. Францыя.
**03.00** Чэмпіянат свету ў класе Турынг.
**10.35** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы на кароткай вадзе. Францыя.
**11.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**12.00** Скачкі на лыжах з трампліна: Летні Гран-пры - HS 140.
**13.00** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы на кароткай вадзе. Францыя.
**13.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. - HS 100. Кваліфікацыя.
**15.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**16.00** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы на кароткай вадзе. Францыя.
**17.00** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**17.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. - HS 100. Кваліфікацыя.
**18.15** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**20.15** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы на кароткай вадзе. Францыя.
**21.45** Цімберспортс: Чэмпіянат свету. Нарвегія.
**22.15** Цімберспортс: Чэмпіянат свету. Нарвегія.
**22.45** Боўлінг: ЗША.
**23.45** Самыя моцныя людзі планеты: Ліга Чэмпіёнаў. Балгарыя.




**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**07.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат»: Размова Уладзімір Мацкевіча / Максіма Жбанкова.
**09.45** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**17.50** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**18.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**20.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**20.25** «Слуцкі збройны чын», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова Уладзімір Мацкевіча / Максіма Жбанкова.
**21.45** «Барбурка», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**22.55** Аб'ектыў.
**23.20** Эксперт.
**23.50** Вагон.

## 24 ЛІСТАПАДА, СУБОТА



**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**10.00** Камедыйны дэтэктыў «Участак» (Расія).
**11.05** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**11.35** Зямельнае пытанне.
**12.15** Камедыя «Чалавек з бульвара Капуцынаў» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Навіны рэгіёна.
**15.35** Авантурная камедыя «Мільён у шлюбным кошыку» (СССР).
**17.25** Дакументальны серыял «Невырагодныя гісторыі кахання» (Украіна).
**18.25** Таямніцы следства.
**19.10** Камедыйная меладрама «Добрая сяброўка для ўсіх» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Крымінальны трылер «Амерыканскія горкі» (ЗША).
**00.00** Дзень спорту.
**00.10** Камедыйны дэтэктыў «Участак».
**01.05** Перазагрузка.



**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.25** «Здароўе».
**10.35** «Смак».
**11.15** «Разумніцы і разумнікі».
**12.00** Камедыя «Прыходзьце заўтра…».
**13.45** «Ды добра!».
**14.15** «Хвіліна славы».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вялікія гонкі».
**17.55** «Адзін супраць усіх».
**18.45** Фільм «Як важна быць сур'ёзным».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.40** «Што?Дзе?Калі?».
**23.55** Фільм «Вобласці цемры».



**06.05** «Сакрэтная тэрыторыя».
**07.00** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**07.10** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.50** «Уявіце сабе!».
**09.15** «Чыстая праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.45** «Мінск і мінчане».
**11.20** «Гарады, што спяваюць». Дзённік.
**11.30** Фільм «Буча ў Гучы». Германія-Аўстрыя-Балгарыя, 2006 г.
**13.15** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Экіпаж». СССР, 1-я серыя.
**15.25** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.45** Фільм «Садоўнік». Расія-Украіна.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Музычнае шоў краіны «Гарады, што спяваюць». Паўфінал.
**22.50** Фільм «Граф Монтэ-Крыста «.ЗША-Вялікабрытанія-Ірландыя, 2002 г.
**01.10** «Хораша жыць».



**07.55** Дабравест.
**08.25** Мультфільмы.
**09.15** Баявік «Дзэртыр» (Расія - Малдова - Балгарыя).
**10.50** Тэлебарометр.
**10.55** Пазакласная гадзіна.
**11.15** Альбарутэнія.
**11.45** Наперад у мінулае.
**12.20** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.30** Беларуская кухня.
**14.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**14.40** Рамантычная драма «Рамэа + Джульета» (ЗША).
**17.00** Парушаючы запаведзі.
**17.40** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**18.55** Ваша лато.
**19.40** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.50** «Імперыя песні». Музычна-забаўляльнае караоке- шоў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Экстрасэнсы вядуць расследаванне.
**22.20** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга.
**00.15** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**01.15** Шоў «Суперінтуіцыя».




**07.00** «Юрмала-2012». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.40** Фільм «Маўкун» (2007 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Ха». Маленькія камедыі.
**12.10** Тэлесерыял «Каханне і расстанне».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** «Код малпы. Генетыкі супраць Дарвіна».
**15.55** «Хвілінная справа». Забаўляльная праграма.
**17.00** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.45** «Танцы з зоркамі». Сезон-2012.
**23.15** Фільм «Каханне на два полюсы» (2011 г.).




**06.20** Серыял «Справа Крапівіных».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Жывуць жа людзі!».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Фільм «Каханне пад грыфам «Зусім сакрэтна».
**15.10** «Жаночы погляд».
**16.00** Сёння.
**16.20** Следства вялі.
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.05** Выратавальнікі.
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.25** «Прафесія - рэпарцёр».
**19.55** Праграма «Максімум».
**21.00** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.00** «Ты не паверыш!».
**23.00** Крымінальны баявік «Саўдзельнік».
**01.05** «Прамень святла».
**01.35** «Рэакцыя Васэрмана».




**00.45** Конны спорт. Агляд тыдня.
**01.05** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**02.05** Аўта і Матаспорт.
**02.20** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы на кароткай вадзе. Францыя.
**02.50** Усе віды спорту: Вось дык так!!!
**10.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**11.15** Лыжнае дваяборства: Кубак свету. - HS 134.
**12.30** Лыжныя гонкі: Кубак свету. Жанчыны. 10км вольным стылем.
**13.30** Санкавы спорт: Кубак свету. Жанчыны. 2-я спроба.
**14.00** Лыжнае дваяборства: Кубак свету.
**14.45** Лыжныя гонкі: Кубак свету. 15км вольным стылем. Мужчыны.
**15.45** Санкавы спорт: Кубак свету.
**16.30** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету.
**16.45** Скачкі на лыжах з трампліна: Кубак свету. - HS 100.
**18.45** Плаванне: Чэмпіянат Еўропы на кароткай вадзе. Францыя.
**20.00** Горныя лыжы: Кубак свету. Жанчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**21.15** Горныя лыжы: Кубак свету. Хуткасны спуск. Мужчыны.
**22.45** Горныя лыжы: Кубак свету. Жанчыны. Слалам-Гігант. 1-я спроба.
**23.00** Горныя лыжы: Кубак свету. Слаламгігант. Жанчыны. 2-я спроба.




**07.00** Студыя «Белсат».
**07.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.00** Студыя «Белсат».
**08.30** «Слуцкі збройны чын», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**09.00** Аб'ектыў.
**09.30** Студыя «Белсат»: Размова Уладзімір Мацкевіча / Максіма Жбанкова.
**09.45** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.00** Форум (ток-шоу).
**11.50** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Гэй, слон!», «Экспедыцыя прафесара Губкі».
**12.15** «Таямніца Сагалі», серыял: 9 серыя.
**12.40** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.00** Вагон.
**13.10** «Дом ля поплаву», тэлесерыял: 11 серыя.
**13.55** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Аперацыя «Адэса»»: ч. 1.
**14.45** МакраФон: «Канцэрт гурта «N.R.M.»»: ч. 1.
**15.45** «Абарыгены», дак. фільм, 2009 г., Расія.
**16.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.45** «Барбурка», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**18.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**18.15** Еўропа сёння.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** «Бэркат і Маршо. Свабода і шчасце», дак. фільм, 2007 г., Чэхія.
**20.00** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**20.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.45** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.45** Суботні сеанс: «Зух», камедыя, 1999 г., Польшча.
**23.10** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 12 серыя.
**23.55** Аб'ектыў.
**00.10** Жаўтуха (сатырычная праграма).

НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ

# АПОШНІ НАЦЫЯНАЛІЗМ

**Алег НОВІКАЎ**

**Услед за баскамі і каталонцамі права на дзяржаўнасць пачалі адстойваць іншыя народы Пірэнеяў. Сярод іх андалузцы — народ, працэс станаўлення нацыянальнай свядомасці якога пачаўся пазней за ўсіх у Еўропе.**




Не дарма андалузцаў часта метафарычна называюць «апошнімі нацыяналістамі». Прычыну такога феномену варта шукаць у гісторыі і сацыяльна-эканамічнай структуры. Андалузія, якая знаходзіцца на самым Поўдні Іспаніі, — вельмі бедны адносна іншых іспанскіх рэгіёнаў край. Таму мясцовая буржуазія, якой заўсёды было патрэбна трымаць пад кантролем вялікую масу беднаты, бачыла ў Мадрыдзе гаранта непарушнасці сваіх прывілеяў і прапагандавала ідэю адзінай і непадзельнай Іспаніі.

Таксама варта памятаць, што Андалузія была апошняй арэнай працэсу Рэканкісты — выгнання маўраў (арабаў) з Пірэнеяў. Таму ў масавай свядомасці тэма незалежнай Андалузіі часам успрымаецца як ідэя адраджэння ісламскіх халіфатаў, на чым актыўна гуляе Касцёл. Дарэчы, у андалузскім нацыянальным руху сапраўды ёсць маленькая маргінальная групоўка, якая сцвярджае, што сапраўдная незалежнасць краю магчымая толькі пры ўмове рэстаўрацыі пазіцый ісламу.

З улікам вышэйсказанага, лакальны незалежніцкі рух больш схільны да сацыялістычных лозунгаў. Яго піянерамі была група маладых гісторыкаў з Севільі, што ў пачатку XX стагоддзя арганізавалі Клуб антраполагаў, якія ў сваіх матэрыялах, па словах саміх удзельнікаў, нечакана адкрылі для сябе «унікальнасць андалузскай культуры». Прызнаўшы факт культурнай адметнасці, андалузскія «антраполагі» адразу ж задумаліся пра палітычную аўтаномію. У 1915 годзе Блас Інфантэ, бацька андалузскага нацыяналізму, друкуе працу «Андалузская ідэя», у якой выкладае аргументы на карысць надання краю правоў аўтаноміі. У 1919 годзе ў Кордабе праходзіць агульныя з'езд аўтанамістаў, вынікам якога стала патрабаванне федэралізацыі Іспаніі.

Інстытуцыялізацыі руху за аўтаномію перашкодзіла грамадзянская вайна: Андалузія была адным з першых рэгіёнаў, які захапілі путчысты генерала Франка, што нават у думках не дапускаў ідэі стварэння на перыферыі аўтаномных адміністрацый.

Новая хваля нацыяналізму пачынаецца ў 1960-я гады. Як і зараз, каталізатарам сталі навіны з Краіны Баскаў і Каталоніі, дзе актывізавалася нацыяналістычнае падполле. Студэнты севільскага ўніверсітэта запачаткавалі свой гуртexistentes. Яго маніфест фактычна паўтараў тэзісы канферэнцыі ў Кордабе з той розніцай, што вялікая роля ў дакументах адводзілася папулярным у той час сацыялістычным лозунгам. Увогуле, тагачасныя андалузскія нацыяналісты нават выкарыстоўвалі ў якасці нацыянальнага штандару сцяг Кубы як сімвал антыімперыялізму (ЗША ў той час, як вядома, былі патронам дыктатуры Франка).

Група аказалася вельмі актыўнай. Ёй нават удалося, нягледзячы на поўную дыктатуру, правесці ў севільскую ратушу свайго дэпутата. Адначасова пад уплывам тых жа баскаў і каталонцаў у іспанскай палітычнай эміграцыі ствараецца андалузская секцыя, якая атрымлівае прапіску ў агульным замежным каардынацыйным цэнтры іспанскай апазіцыі.

Аднак самыя важныя працэсы для андалузскага нацыяналізму адбываліся не ў студэнцкіх колах і не ў кулуарах эмігранцкіх тусовак. З пачатку 1960-х назіраецца масавая эміграцыя працоўнай моладзі з беднай Андалузіі ў буйныя індустрыяльныя цэнтры Поўначы. Паводле падлікаў гісторыкаў, на пошук лепшай долі выправілася каля двух мільёнаў чалавек. Па прыбыцці на новае месца працы андалузскія працаўнікі нечакана для сябе зразумелі, што культурна яны не падобныя да іспанцаў. Асабліва хутка развіваўся працэс станаўлення нацыянальнай самасвядомасці ў андалузскіх працоўных імігрантаў у Каталоніі. Тут, дарэчы, андалузцаў столькі, што яны часам маюць сваіх дэпутатаў у рэгіянальным парламенце.

Калі ў 1975 годзе памёр Франка, якраз андалузскія рабочыя грамады на поўначы Іспаніі пачалі абуджаць народ. У снежні 1977-га яны арганізавалі дзень акцый за аўтаномію Андалузіі. Па ўсёй Іспаніі на вуліцы выйшла каля мільёна чалавек. Галоўным вынікам маніфестацый стала стварэнне сумеснага клубу дэпутатаў ад Андалузіі, якія пачалі працаваць над праектам статуту аўтаноміі. Паралельна ўзнікла першая масавая партыя — Андалузская сацыялістычная партыя, якая прайшла ў рэгіянальны парламент. У 1980 годзе ідэю стварэння аўтаноміі на рэферэндуме падтрымала большасць андалузцаў.

І тут пачынаецца поўны абсурд. Кансерватыўны ўрад у Мадрыдзе аказаўся не гатовы даць Андалузіі статус паўнавартаснай аўтаноміі. Дамінавала думка, што трох аўтаномій у Іспаніі (Краіна Баскаў, Каталонія і Галіцыя) дастаткова.



Паміж Севільяй і Мадрыдам узнікла напружанасць, якая нават набыла формы вайсковага канфлікту. У гэты час створаная радыкальнымі нацыяналістамі групоўка «Узброеная група 28-га лютага» (GAVF), арганізавала шэраг тэрактаў, патрабуючы поўнай незалежнасці Андалузіі. Хто ведае, чым усё скончылася б, калі б не здрада сацыялістаў. Яны пагадзіліся на абмежаваны аўтаномны статус. Так Андалузія стала Аўтаномнай камунай. Як гаворыцца, ні рыба, ні мяса.

Сваю нязгоду надаваць краю тыя ж правы, што, напрыклад, і каталонцам, цэнтр аргументуе тым, што андалузцы — не асобным народам. Быццам гэта толькі субэтнас іспанскай нацыі. У дзеючай цяпер рэдакцыі Статуту пра аўтаномію андалузцы кампрамісна называюцца «гістарычнай нацыяй». Таму адным з аспектаў актыўнасці андалузскіх нацыяналістаў з'яўляецца незвычайная для нас дзейнасць за прызнанне андалузцаў асобным народам. Каб давесці гэта, вядзецца шырокая культурная праца, у тым ліку ў галіне кадыфікацыі мясцовай мовы. Цікава, што вялікі акцэнт нацыяналісты робяць на асаблівасцях андалузскай музычнай культуры, якая не падобная на музыку звычайных іспанцаў. Тут можна згадаць славутыя танцы фламенка.

Праграма-мінімум — патрабаванне прызнання аўтахтонаў нацыяй і ідэя вяртання ў склад Андалузіі зоны Гібралтара. Яна дазваляла прадстаўнікам усіх нацыяналістычных накірункаў — ад умераных федэралістаў да заўзятых нацыяналістаў — доўгі час трымацца разам. Цяпер пад уплывам навінаў пра рост сепаратызму ў Каталоніі і Краіне Баскаў у гэтым лагеры (сюды ўваходзяць каля 15 праектаў) назіраецца раскол на ўмераных рэфармістаў і радыкалаў. Фармуюцца два полюсы. Першы — Андалузская партыя, якая бачыць задачай федэралізацыю Іспаніі і наданне Андалузіі роўнага з іншымі краямі суб'екта федэрацыі статусу. Другі полюс — моладзевая групоўка «Jaleo!!!», якая патрабуе незалежнасці ў пакеце з шырокімі сацыяльнымі рэформамі.

Абедзве структуры дастаткова слабыя, каб казаць пра тое, што яны змогуць навязаць свае канцэпты андалузцам. Аднак з улікам маштабаў палітычнага крызісу ў Іспаніі, развязка можа быць якой заўгодна.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Імпарт у Беларусь рэгулюецца законамі і пастановамі Савета міністраў, якія рэгламентуе знешнеэканамічную дзейнасць, а таксама ўказамі і дэкрэтамі прэзідэнта. Да ўсяго іншага беларускія вытворцы абавязаны замяшчаць замежную прадукцыю на спажывецкім рынку таварамі ўласнай вытворчасці. У выніку, сцвярджаюць эксперты, пакуль у пройгрышы апынаюцца і вытворцы, і спажыўцы, Абмежаванне прапановы па імпарце вядзе да зніжэння канкурэнцыі ў пэўных сегментах рынка, і такім чынам спрыяе росту коштаў і скарачэнню асартыменту тавараў. А ў дадатак робіць беларускага вытворцу гультаяватым, паколькі збыт яго прадукцыі забяспечвае дзяржава пратэкцыянісцкімі мерамі.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Пытанне пра кампенсацыю Расіі 1,5 мільярдаў долараў грашыма ва ўрадзе нават не ўздымалася. Грошы даўно выдаткаваны — на «парламенцкія выбары» ў верасні, на абяцанае давядзенне сярэдняй зарплаты да 500 долараў, — кажа крыніца «Газеты.Ru» ў Саўміне Беларусі. Падчас апошняга візіту міністра замежных спраў Расіі Сяргея Лаўрова ў абмен на зняцце прэтэнзій Мінск прапанаваў прызнанне Абхазіі і Паўднёвай Асеціі. Але, падобна, цяпер нашмат мацней лабісцкія пазіцыі Дзмітрыя Рагозіна, які хоча атрымаць беларускія прадпрыемствы, прынцыпова важныя для расійскага ВПК. Гэта можа быць Мінскі завод колавых цягачоў (МЗКТ), які вырабляе шасі для ўсёй расійскай ракетнай тэхнікі і комплексаў ППА. Ці «Пеленг», які вырабляе ваенную оптаэлектроніку. «Гандаль будзе, гандаль жорсткі. І завершыцца ён у лепшым выпадку ўвесну 2013 года», — лічыць «Газета.Ru».

**«Газета.Ru» (Расія)**

Цяперашнюю адстаўку шэфа КДБ эксперты параўноўваюць з падзеямі вясны 2008 года, калі Аляксандр Лукашэнка прыбраў самых адыёзных прадстаўнікоў свайго сілавога апарата — кіраўніка МУС Уладзіміра Навумава і камандзіра спецпадраздзялення «Алмаз» Дзмітрыя Паўлючэнку. Менавіта гэтых людзей Еўрасаюз падазраваў у выкраданнях і забойствах лідараў беларускай апазіцыі Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара. Тады, адразу пасля адстаўкі сілавікоў, пачаўся дыялог паміж Мінскам і Брусэлем, які прывёў да прыкметнага паслаблення заходніх санкцый супраць Беларусі і выдзялення краіне крэдытаў МВФ.

**«Камерсант» (Украіна)**

Розныя крыніцы паказваюць на прамую сувязь паміж адстаўкай Вадзіма Зайцава, супраць якога распачата крымінальная справа і вядзецца ўнутранае расследаванне, і выбухам, які здарыўся ў панядзелак побач з віцебскім аддзяленнем КДБ. Існуюць версіі, што такім спосабам Вадзім Зайцаў і яго паплечнік Віктар Лукашэнка папярэджваюць беларускага прэзідэнта пра тое, што можа паўтарыцца гісторыя з тэрактам 11 красавіка 2011 года. Гэта ўскосна пацвярджае менавіта іх дачыненне да самага гучнага мінскага выбуху і кажа пра тое, што вайна ўнутры клана Лукашэнкі і сярод яго паплечнікаў будзе працягвацца.

**«СЛОН» (Расія)**

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка стварыў новую знешнепалітычную інтрыгу, паабяцаўшы пераарыентоўваць грузы з прыбалтыйскіх партаў на ленінградскія. Гэта заява выклікала дыскусію сярод палітыкаў і эканамістаў. Эксперты ў большасці сваёй схільныя лічыць, што сказанае беларускім прэзідэнтам — не больш чым палітычная спекуляцыя. Нельга забываць пра тое, што тэма адмовы ад паслуг балтыйскіх партаў звязана з тэмай санкцый у дачыненні да Беларусі. Літва невыпадкова выступае крытыкам эканамічных санкцый у дачыненні афіцыйнага Мінска і лабістам яго інтарэсаў у Брусэлі.

**«Независимая газета» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. ЦІ БУДЗЕ НОВАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ?

Расійская прэса сцвярджае, што ў сувязі з узмацненнем рэжыму ў Расіі, Крэмль рыхтуе перагляд дзеючай зараз так званай «Ельцынскай канстытуцыі». У аснове яе рэдакцыі будзе праект, які распрацаваў Уладзімір Якунін, асабісты сябра Пуціна, цяперашні кіраўнік Расійскай чыгункі (РЖД). Альтэрнатыўная Канстытуцыя Расіі ўпершыню была прэзентавана грамадскасці ў маі гэтага года. Адбылося гэта не без удзелу дзяржавы — інфармацыйнай пляцоўкай для раскруткі праекту стаў галоўны друкаваны орган урада РФ — «Российская газета». Галоўнымі каштоўнасцямі расіян прапануюць зрабіць не грамадзянскія свабоды, а «общинность», калектывізм і адмову ад матэрыяльнага дабрабыту. Замест раздзелу пра «правы і свабоды чалавека і грамадзяніна» новая Канстытуцыя ўтрымлівае параграф «Правы і абавязкі чалавека і грамадзяніна». Увогуле, другі раздзел у канстытуцыі, які ў цяперашнім варыянце кажа пра свабоды расіян, прысвечаны нейкім «каштоўнасцям Расіі». Гэтыя каштоўнасці абвяшчаюцца прыярытэтнымі ў адносінах да астатніх законаў. Аналізуючы тое, што адбываецца, палітолагі асцерагаюцца, што да выбараў–2018 Расія канчаткова стане краінай цемрашалаў. Радуе прагрэсіўную частку грамадства адно: на сённяшні дзень у Расіі не існуе прававых механізмаў змены базавых прынцыпаў Канстытуцыі. Распрацоўка закона пра Канстытуцыйныя сходы нядаўна ў чарговы раз была спынена.

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. МАРЫ ПРА РОБІН ГУДА

Незвычайную рэакцыю ў грамадскасці выклікала навіна пра смерць Ярaслава Мазурыка. Яраслаў Мазурык — былы ахоўнік, галоўны падазраваны ў забойстве трох ахоўнікаў у кіеўскім гіпермаркеце «Караван», дзе ён спрабаваў абрабаваць адно з аддзяленняў банку. Гэта падзея шакавала ўсіх. МЗС Украіны палічыў справай гонару знайсці Мазурыка і арганізаваў шырокую кампанію па пошуку забойцы. Аднак ніякіх вынікаў следчыя мерапрыемствы не далі, што нават дазволіла высунуць версію пра тое, нібы забойца збег за мяжу (сярод краін, дзе ён мог хавацца, згадваліся і Беларусь). Аднак у выніку Мазурыка ўсё ж знайшлі. Праўда, не яго, а яго цела ў адным з паркаў. Міліцыя кажа пра самазабойства, аднак у гэтую версію вераць слаба. Шмат хто лічыць, што Мазурыка забілі міліцыянеры, якія былі звязаныя са спробай абрабавання ў «Караване». Яшчэ адна версія — Мазурыка даўно высачылі, аднак вырашылі забіць толькі зараз, каб адцягнуць увагу вельмі палітызаванай пасля выбараў 26 кастрычніка публікі ад тэмы выбарчых фальсіфікацый. Цікава, што грамадства маральна на баку Мазурыка. Сацыёлагі ўжо паспрабавалі прааналізаваць феномен і лічаць, што прычыны такой з'явы ў агульных трэндах. Апошнія гады грамадзяне Украіны кожны дзень сутыкаюцца з несправядлівасцю ў адносінах да сябе і блізкіх. У суды, якія цалкам падкупныя, ісці няма сэнсу. Адсюль мара пра Робін Гуда, на ролю якога гатовыя запісаць і забойцу з «Каравана».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. НАЗАРБАЕЎ АТРЫМАЕ ЭЛІКСІР ЖЫЦЦЯ

Мы ўжо пісалі пра тое, што навукоўцы Nazarbayev University ў Казахстане прадставілі на суд публікі спецыяльны ёгурт, які лічаць першым крокам на шляху стварэння эліксіру жыцця. Стварыць эліксір да 2020 года ад іх ультыматыўна патрабаваў прэзідэнт. Казахская грамадскасць сустрэла паведамленне жартамі. На думку большасці, тыя навукоўцы папросту разводзяць гаранта на грошы пад выглядам сур'ёзнай навуковай працы над стварэннем цуда-прэпарату. Аднак цяпер нечакана на бок Nazarbayev University стала брытанская акадэмічная супольнасць. Выданне «The Telegraph» цытуе аднаго з дырэктараў Лонданскага музея навукі Роджара Хайфілда, які кажа: «Адназначна, што казахі на правільным шляху. Ідэя стварыць мікробныя культуры ў арганізме чалавека выглядае цікава. Мы таксама выявілі, што складаная сумесь мікраарганізмаў мае вялікі ўплыў на шматлікія працэсы».

**Паводле брытанскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. НЕАНАЦЫСТЫ АБАРАНЯЮЦЬ ПІТЭРА ПЭНА



Нямецкая правая прэса сцвярджае, што ў бліжэйшы час са школьных праграм прыбяруць славуты твор пра Пітэра Пэна. Быццам, літаратурны герой трапляе пад апошнюю рэзалюцыю Камітэта Еўрасаюза па праблемах роўнасці і праводу жанчын. Паводле пастановы еўрачыноўнікаў, ад міністэрства адукацыі краін ЕС патрабуюць «змагацца з адукацыйнымі матэрыяламі, якіх прапагандуюць сярод дзяцей стэрэатыпы паводзін мужчын і жанчын». Таксама школьную літаратуру ў Еўропе збіраюцца зачысціць ад твораў, якія ўтрымліваюць тэмы нацыяналізму. Дакладнага спісу забароненых кніг яшчэ няма, аднак, на думку нямецкіх правых, пад гэтыя крытэрыі трапляе ў тым ліку Пітэр Пэн. Такі клопат пра вядомага персанажа дзіцячай літаратуры з боку ўльтраправых выглядае вельмі дзіўна. Пітэр Пэн у масавай свядомасці ніяк не звязаны з ідэалогіяй нацыстаў. Больш таго, сэксапатолагі вызначаюць такую хваробу, як сіндром Пітэра Пэна, на які пакутуюць людзі, што начыталіся пра Пітэра Пена, вырашылі жыць толькі ў свеце дзяцей і, адпаведна, схільныя да педафіліі.

**Паводле нямецкай прэсы**

ЦІКАВА

# КАМПРАМАТ НА СВАБОДУ

*Алег НОВІКАЎ*

**Пасля прарыву ў Вярхоўную Раду Украіны нацыяналістычнай партыі «Свабода» частка беларускіх нацдэмаў выступае за імпарт гэтай мадэлі ў нашу краіну. Аднак перад тым, як ідэалізаваць «Свабоду» і яе кіраўніка Алега Цягнібока, варта было б пазнаёміцца з кампраматам на гэту структуру.**



Быць палітычным актoрам ва Украіне — значыць абавязкова трапіць у фокус увагі журналістаў і паліттэхнолагаў, якія збіраюць дасье на ўсіх заўважных персон. І, натуральна, першае месца надаецца пошуку кампрамату, які заўсёды запатрабаваны ў інфармацыйных войнах.

Існуе такі кампрамат на арганізацыю «Свабода» і на яе кіраўніка. Файл «Кампрамат на Свабоду» можна на падзяліць на некалькі блокаў.

Першы тычыцца версіі пра тое, што Цягнібок з'яўляецца ахвярай савецкай сістэмы. Алег любіць узгадваць, што па жаночай лініі яго дзед — рэпрэсаваны грэка-каталіцкі святар, прадзед — міністр замежных спраў Заходняй Украінскай Народнай Рэспублікі. Аднак пры гэтым не любіць казаць, што бацька, спартовы лекар Яраслаў Цягнібок, на пачатку 1980-х гадоў стаў галоўным лекарам зборнай СССР па боксе. Нагадаем, што гэты былі андропаўскія часы. Гэта значыць: КДБ палічыла, што «грахі» продкаў маці Алега Цягнібока выкупленыя. Бацька Алега памёр, калі ён вучыўся ў 10-м класе, аднак нейкія сувязі ў львоўскай камуністычнай эліце ў сям'і яўна засталіся. Хаця б таму, што два гады ў савецкім войску Алег правёў як у Бога за пазухай — хадзіў пісарчуком аднаго генерала ў 270 кіламетрах ад роднага Львова.

Наступны блок кампрамату тычыцца знаходжання Цягнібока на пасадах кіраўніка Сацыял-нацыянальнай партыі Украіны (СНПУ), куды Алег прыйшоў са студэнцкага руху і дзякуючы якой зрабіў хуткую палітычную кар'еру. СНПУ — выразна правая радыкальная партыя, ідэалогіяй якой, адпаведна праграмным дакументам, з'яўляецца «сацыял-нацыяналізм». Заснавальнікі партыі называлі сябе «апошняй надзеяй белай расы і чалавецтва ўвогуле ва ўмовах дэградацыі», і нават марылі пашырыць межы Украіны аж да Волгі. Аналагічнымі былі і тагачасныя заявы Цягнібока.

Дастаткова ўзгадаць фрагмент яго скандальнага выступу на мітынгу каля магілы аднаго з камандзіраў Украінскай паўстанцкай арміі (УПА): «*Вони готувалися і боролися з москалями, боролися з німцями, боролися з жидовою і з іншою нечистю, яка хотіла забрати в нас нашу українську державу… Треба віддати Україну, нарешті, українцям. Оті молоді люди і ви, сивочолі, оце є та суміш, якої найбільше боїться москальско-жидівська мафія, яка сьогодні керує в Україні*». Гэтыя словы выклікалі шквал пратэстаў з боку яўрэйскай грамады.

Флірт з нацызмам стаў прычынай таго, што Цягнібока выключылі з партыі «Наша Украіна», хаця ён лічыўся яе галоўны маторам на Львоўшчыне. Шматлікія заявы Цягнібока папросту білі па іміджу Ючшанкі як сур'ёзнага праеўрапейскага палітыка.

Аднак у 2004 годзе з ініцыятывы Цягнібока СНПУ правяла рэбрэндынг — абрала больш нейтральную назву «Свабода» і пазбавілася сімволікі, якая нагадвае свастыку. У сваіх прамовах Цягнібок пачаў рабіць стаўку на нацыянал-папулізм і антыкамунізм.

Яшчэ адзін блок кампрамату — раскол аранжавага электарату. Нягледзячы на кепскія адносіны з Ючшанкам, Цягнібок актыўна ўдзельнічаў у «аранжавай рэвалюцыі». Менавіта ён узначальваў блакаду і захоп цэлага шэрагу ўрадавых і грамадскіх будынкаў. Але ўжо ў 2005 годзе Цягнібок канчаткова адмежаваўся ад «аранжавых», абвінаваціўшы іх у здрадзе нацыянальным інтарэсам і ў карупцыі. На парламенцкія выбары 2006 года «Свабода» пайшла з перадвыбарчым плакатам, на якім намаляваны казачны волат, што лупіць булавой трохгаловага цмока з эмблемамі Партыі рэгіёнаў, «Нашай Украіны» і БЮТ.

Вайна з «аранжавымі» мела катастрафічныя вынікі для справы Майдана. За кошт расколу дэмакратычнага электарату ў Заходняй Украіне Цімашэнка не здолела перамагчы Януковіча на прэзідэнцкіх выбарах. Украіна стала на шлях паўзучага аўтарытарызму.

Затое раскол «аранжавых» прынёс бонусы «Свабодзе». У 2006 годзе ў парламент «Свабода» не патрапіла, хаця атрымала фракцыі ў Львоўскай абласной і гарадской радах, а таксама ў некалькіх мясцовых радах Галічыны. Зорны час Цягнібока прабіў, калі было вырашана правесці датэрміновыя выбары Цярнопальскай абласной рады ў сакавіку 2009 года. На іх «Свабода» заняла першае месца, атрымаўшы 34,69 працэнта галасоў выбаршчыкаў і 50 са 120 дэпутацкіх мандатаў. Прадстаўнік «Свабоды» ўзначаліў аблсавет. Наступным поспехам стаў праход у Вярхоўную Раду на кастрычніцкіх выбарах 2012 года.

Нарэшце, апошні кампрамат супраць Цягнібока тычыцца крыніц фінансавання яго праекту. Для ўсіх, хто ведае, як арганізавана ўкраінская палітычная кухня, узнікае пытанне — за чый кошт банкет? Пытанне пра спонсараў «Свабоды» актуалізуецца падчас усіх выбарчых кампаній. Алег на гэта пытанне заўсёды адказвае адназначна: мауляў, нас падтрымлівае дробны і сярэдні бізнес, аб'яднаны ў міфічны «Эканамічны савет» партыі. Імёны сяброў гэтай рады нікому не вядомыя, каб прадухіліць рэпрэсіі ўлады.

Гэта версія пра крыніцы рэсурсаў «Свабоды» выглядала забаўна да 2006 года, калі патэнцыйна прахадныя месцы ў спісе «Свабоды» занялі вядомыя бізнэсмэны з «групы Ахметава». Напрыклад, тут з'явілася прозвішча былога кіраўніка кампаніі DCC (якая ўваходзіць у склад групоўку Ахметава) Леанід Нетудыхата. Тады ж на свет вылезлі і падрабязнасці супрацоўніцтва Цягнібока з вядомым львоўскім алігархам Пятром Дымінскім, таксама чалавекам Ахметава. У 2008 годзе пры падтрымцы Цягнібока той паспрабаваў атрымаць ад Львова зямлю і нерухомасць у абмен на абяцанні пабудаваць стадыён да Еўра–2012. Гэтым планам перашкодзіў мэр Львова. У 2010 годзе выбухнуў скандал у Цярнопальскай вобласці, дзе адзін са «свабодаўцаў» прызнаўся, што атрымліваў грошы ад Партыі рэгіёнаў.

Па словах палітолага Тараса Беразаўца, «Алег Цягнібок не цураўся грошай буйнага алігарха Каламыйскага, які меў зуб на Цімашэнка за тое, што тая не дала яму прыватызаваць Адэскі партовы завод. Яшчэ з 2006 года ходзяць чуткі, што Цягнібок «прадаўся Ахметаву». Галоўнаму фінансісту Партыі рэгіёнаў таксама выгадна, каб праеўрапейскае электаральнае поле, на якім «пасвіцца» Юлія Цімашэнка, было максімальна размытае.

Вось такі кампрамат, які, праўда, не перашкодзіў «Свабодзе» атрымаць сваю фракцыю ў Вярхоўнай Радзе. Як канстатуе прэса, нелюбоў да Януковіча настолькі моцная, што Цягнібоку забылі ўсе пералічаныя грахі.

«Падтрымка «Свабоды» на выбарах аказалася «фішкай» апазіцыйна арыентаванай інтэлігенцыі», — піша выданне «Сегодня».

Сапраўдным выклікам для «Свабоды» стануць прызначаныя на 2015 год мясцовыя выбары. На гэтых выбарах дэпутацкая большасць ад «Свабоды» ў тым жа Львове і ў Цярнопалі яўна атрымае ад сваіх былых выбаршчыкаў пытанне: спадары нацыяналісты, а чаму за пяць гадоў вы не вырашылі ніводнай камунальнай праблемы?

У такім разе не выключана з'яўленне на гарызонце новай нацыяналістычнай партыі. І ўсё пачнецца наноў.

ПАСЛЯ ПАДЗЕІ

# ЯК ПЕРАМАГЧЫ АБАМУ?

Алег НОВІКАЎ



**Рэспубліканская партыя ЗША залізвае раны пасля паразы на выбарах і думае, з чым ісці на выбары 2016 года. Прапануем вашай увазе агляд амерыканскай кансерватыўнай аналітыкі.**

Рэспубліканцы прайгралі дэмакратам з-за цэлага комплексу прычын. Былі, натуральна, і непрадказальныя выклікі. Хто мог ведаць, што за пару дзён да выбараў на ўсходні бераг прыйдзе разбуральны ўраган «Сэндзі» — вынік глабальнага пацяплення? Традыцыйная адмова Ромні і рэспубліканцаў прызнаваць наяўнасць праблемы змены клімату адгукнулася ім у выглядзе фронды Майкла Блумберга, рэспубліканскага мэра Нью-Йорку — гораду, які моцна пацярпеў ад стыхіі. У знак пратэсту супраць ігнаравання аднапартыйцамі тэмы кліматычных змен ён заклікаў галасаваць за Абаму, што аказалася моцным маральным ударам па лагеры Ромні.

Аднак змена клімату — гэта перыферыйная тэматыка, таксама як і праблема выратавання аўтамабільнай прамысловасці або гомасэксуальныя шлюбы. Ахілесава пятка рэспубліканцаў — стаўка на белых дарослых мужчын. Такі падыход, па-першае, пакідае па-за межамі рэспубліканскай агітацыі жанчын (54 працэнты выбаршчыкаў), з якіх большасць абралі Абаму.

Галоўны фактар правалу рэспубліканцаў — слабая праца з нацыянальнымі меншасцямі, перш за ўсё іспанамоўнымі імігрантамі (лацінас) і афраамерыканцамі. Менавіта іх галасы вырашалі вынік выбараў. Асабліва крыўдна рэспубліканцам за лацінас, якія яшчэ дзесяцігоддзе таму, як фанатычныя католікі, масава галасавалі за рэспубліканцаў. Цяпер прапануемая дэмакратамі культуралагічная праблематыка — гомасэксуальныя шлюбы, права на аборты — ужо не выклікае ў каталікоў аўтаматычнай рэакцыі бегчы і галасаваць за рэспубліканцаў.

Нарэшце, GOP («Старая добрая партыя» — мянушка рэспубліканцаў) яўна не разумее моладзь. Не толькі Ромні. Усе контрагенты Абамы — экстравагантная Мішэль Бахман са значкам «Tea Party», эгацэнтрычны дэпутат Ньют Грынвіч, уладальнік дзіўнага пачуцця гумару губернатар Рык Перы, прадавец піцы Герман Каін, евангелісцкі фанатык Рык Санторыум — прадстаўляюць мэйнстрым палітычных вар'ятаў, далёкіх ад рэальнасці», — піша аналітык Бернд Пікерт. Сацыёлагі аперуюць жудаснымі лічбамі. У некаторых універсітэтах падтрымка Міта Ромні не даходзіла да 10–15 працэнтаў.

Прычына адчужэння маладых — далёкая ад рэалій, ультракансерватыўная рыторыка. Мінулая кампанія не аказалася выключэннем. Шмат шуму выклікаў ваяўнічы спіч кандыдата ў віцэ-прэзідэнты Пола Раяна, які палохаў выбаршчыкаў армагедонам заходняй цывілізацыі, які, па яго словах, наступіць пасля таго, як Абама пойдзе на другі тэрмін, знішчаючы адначасова «іўдзейска-хрысціянскую спадчыну».

Па ўсіх пазіцыях ніякіх сур'ёзных высноў рэспубліканцы не робяць. Большасць папросту намагаецца бачыць ва ўсім злую фартуну і дэманічны геній Абамы, які інструментызуе бедных і каляровых. «Абама мабілізаваў неадукаваных выхадцаў з краін трэцяга свету, якія традыцыйна настроены антыамерыканскі», — канстатуе кансерватыўны часопіс «Obsrver».

Увогуле, у кансерватыўнай прэсе шмат ужываецца тэрмін «Obamacare» (анг.: Клопат Абамы). Obamacare — новая фішка рэспубліканскай міфалогіі. Адпаведна ёй, за часы першай кадэнцыі Абамы ў масах бедных і каляровых амерыканцаў узнікла сляпая вера ў тое, што Абама не пакіне іх сам-насам са сваімі праблемамі.

На думку больш рэалістычных палітыкаў, рэспубліканцы павінны вярнуць сабе былое лідарства ў пытанні эміграцыйнай рэформы. Спробу лібералізацыі эміграцыі рабіў у 2000 годзе Буш-малодшы, аднак тады большасць аднапартыйцаў завалiла ідэю. Таксама варта згадаць пазіцыю сацыяльных кансерватараў, кумірам якіх ёсць Рычард Ніксан. На іх думку, патрэбна пазбаўляцца ад спадчыны Джорджа Буша, які павёў рэспубліканцаў далёка направа. Гэта дазволіла хрысціянскім фундаменталістам цяпер дыктаваць свае правілы і навязваць свае экзатычныя забабоны.

Праўда, такіх, як сацыяльныя кансерватары, вельмі мала. Большасць каментатараў кансерватыўных выданняў нагадваюць нейкую мантру: «Нам кажуць, што рэспубліканская партыя — «too old and too white and too male» (занадта старая, занадта белая і занадта мужчынская). Аднак хіба не такімі былі большасць дэпутатаў Канстытуцыйнага канвенту ЗША? Калі вам гэта не падабаецца, то можаце ехаць у Буркіна-Фасо».

Адпаведна, параза кандыдата ад рэспубліканцаў на выбарах–2012 разглядаецца як вынік паліттэхналагічнай памылкі. Так, нехта асуджае дарадцаў Ромні за тое, што яны выбралі кепскую стратэгію: замест таго, каб па ходу выбарчай кампаніі надаваць кандыдату рысы палітыка-цэнтрыста, яны раілі Ромні выступаць з радыкальнымі заявамі.

Таксама ўзгадваюць махінацыі з сацыялагічнымі апытаннямі ў некаторых кансерватыўных СМІ. Некаторыя медыя ў самы рашаючы час кампаніі пачалі казаць пра адрыў Ромні ад Абамы, што на самай справе было не зусім так. Між тым, такая арыфметыка заспакоіла штаб Ромні, падштурхнула яго зрабіць фатальныя крокі, а з іншага боку — цэментавала блок Абамы.

Дасталася і асабіста Ромні. На думку шмат каго, ён выглядаў не як свежая альтэрнатыва, а як нешта, што ўжо было ў выкарыстанні. «Ромні прайграў па тых жа самых прычынах, па якіх рэспубліканскі Рым прайграў дыктатару Цэзару. У іх не было сапраўднага лідара», — адзначае выданне «Politico».

Адсюль наступная дылема: ці здольная Рэспубліканская партыя сапраўды вынесці практычныя ўрокі з правалу–2012? На думку большасці незалежных СМІ, ніякіх змен у Рэспубліканскай партыі бліжэйшым часам не адбудзецца. Як піша сайт Redstate: «Партыя будзе і далей належаць працаўнікам росту кампетэнцыі федэральнага цэнтру і хрысціянскім фундаменталістам». Пра гэта сведчыць агляд каментатараў рэспубліканцаў на Twitter пасля абвяшчэння вынікаў выбараў. Рэспубліканцы рэагавалі лаянкай і заклікамі да блакады працы Кангрэсу. Яшчэ адной іх паказальнай рэфлексіяй стала петыцыйная кампанія ў шэрагу штатаў за выхад іх са складу ЗША. Цяпер гэта галоўная фішка рэспубліканцаў — галасаваць у інтэрнэт-петыцыях за тое, каб не жыць у адной краіне з Абамам. Такіх ахвотнікаў на 14 лістапада ў ЗША было каля 350 тысяч.

Усё гэта пакідае актуальным адказ на пытанне, якое сфармулявала «Washington Times»: «Калі мы не здолелі перамагчы дэмакратаў зараз, у час самага цяжкага за апошнія часы крызісу, ці зможам мы перамагчы іх у нармальны час?»

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЯГОР БАРЫСАЎ



Прэзідэнт Якуціі выдаў указ пра абавязковае наведванне дзяржаўнымі чыноўнікамі курсаў цвярозасці. Першая партыя са 150 службоўцаў 43-х міністэрстваў і ўпраўленняў ужо прайшла курсы напачатку лістапада. Службоўцам прачыталі лекцыі на тэмы «Гісторыя алкагольнай праблемы», «Сусветныя мадэлі адмовы ад наркотыкаў і алкагалізму: як разарваць алкагольна-наркатычнае кола» і г.д. Адна з тэмаў семінару, дарэчы, называецца «Досвед практычнай алкагольнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь». «Мэтай лікбезу, паводле афіцыйнай версіі, было падвышэнне кваліфікацыі кіраўнікоў органаў дзяржаўнай улады ў галіне прафілактыкі наркаманіі і фармаванні культуры цвярозасці і здароўя сярод насельніцтва рэспублікі». Аднак гэта толькі падстава. Рэспубліканскі лідар адправіў прадстаўнікоў выканаўчай улады на курсы цвярозасці не проста так. Усё для таго, каб яны, па яго словах, маглі маральна і фізічна падрыхтавацца да будучай рэформы — абвяшчэння ў Якуціі татальнага «сухога закона». Урад падрыхтаваў праект закона «Пра цвярозасць», які прадугледжвае поўную забарону вытворчасці і продажу любых гатункаў алкаголю ў рэспубліцы. Гэта ініцыятыва выклікала супраціў рэспубліканскіх службоўцаў усіх узроўняў, уключаючы мэра сталіцы аўтаноміі. Вось цяпер іх і спрабуюць пераканаць шляхам семінараў.

### КАТРЫН ГЕРЫНГ-ЭКАРД



Новы сустаршыня нямецкай партыі «Зялёных» была абраная на пасаду ў выніку ўнутрыпартыйных выбараў, удзельнікі якіх галасавалі з дапамогай SMS. Перамогу Герынг-Экард называюць вяхой у гісторыі «Зялёных». Справа не толькі ў тым, што ў наступным годзе выбары ў Бундэстаг, і «Зялёныя» (у тым ліку і іх новы сустаршыня) у выпадку перамогі кааліцыі могуць атрымаць важныя ўрадавыя пасады. Фішка ў тым, што Герынг-Экард непасрэдна перамагла Клаўдзію Рот, іншага лідара «Зялёных». Гэтую дуэль разглядалі як бітву дзвюх платформ. Катрын паходзіць з Усходняй Германіі, яна адзін з лідараў пратэстанцкага руху, выхоўвае пяць дзяцей, вядзе сціплы лад жыцця і, нарэшце, выступае супраць легалізацыі лёгкіх наркотыкаў. Клаўдзія, наадварот, — яскравы прадстаўнік генерацыі студэнцкай рэвалюцыі 1968-га. Яна як феміністка адмаўляецца ад сямейнага жыцця, пачынала як прадзюсар панк-гурта, любіць розныя вясёлыя тусоўкі і модны гардэроб. На думку палітолагаў, прыход Катрын у кіраўніцтва спрые адыходу «Зялёных» ад левай ідэалогіі і ператварэнню ў партыю, якая прадстаўляе інтарэсы гарадскога сярэдняга класу. Наколькі атрымаецца ў «Зялёных» рэбрэндынг, стане вядома ў выніку выбараў. Праўда, нельга забываць, што другім сустаршынёй «Зялёных» абраны Юрген Трыцін, які пачынаў у палітыцы ўвогуле як фанат Мао.

### НІКАЛЯ САРКАЗІ



Экс-прэзідэнта Францыі цяпер называюць «Напалеон на востраве Эльба», маючы на ўвазе яго ізаляцыю ад палітыкі на фоне заўважнага росту папулярнасці сярод французаў. Нечакана для ўсіх, апошнім часам у Францыі пашырылася настальгія па часах Ніколя. Дайшло да таго, што на рынку з'явіліся сумкі, майкі з надпісам: «Ніколя, вярніся». Колькасць сяброў Сарказі на яго старонцы ў Facebook перавалiла за 800 тысяч, што ёсць рэкордам для французскіх палітыкаў. Такую з'яву спецыялісты тлумачаць шмат чым. Асабістая харызма Сарказі на галаву вышэй за цяперашніх гаспадароў Елісея. Акрамя таго, французы як паўднёвы народ хутка ўсё забываюць. Нарэшце, на бум сарказіманіі ўплываюць слабыя вынікі дзейнасці новай адміністрацыі ў барацьбе з наступствамі крызісу. Застаецца толькі адказаць на пытанне, ці пагодзіцца Сарказі, які жыве на сваёй віле на Рыўеры, вярнуцца ў палітыку, як калісьці Напалеон з Эльбы? Прэса лічыць, што так. Прынамсі вядома, што на такі крок яго актыўна падбівае Карла Бруні, якая мае вялікі ўплыў на экс-прэзідэнта.

ЦІКАВА

# ПОЛЬСКА-ФРАНЦУЗСКІ БЛІЦКРЫГ ПАД БАБРУЙСКАМ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Першая сусветная вайна стала цяжкім выпрабаваннем для еўрапейскага кантыненту. Ваюючыя бакі спаборнічалі ў распрацоўцы зброі і ў спосабах знішчэння ворагаў. Адным з найбольш знакавых вынаходніцтваў гэтага крывавага канфлікту сталі танкі. 15 верасня 1916 года гэтыя гусенічныя монстры ўпершыню былі выкарыстаны ў баявых дзеяннях на заходнім фронце. Тады англійская танкавая атака пад Сомай выклікала страшэнную паніку ў немцаў.**



Палякі ў Бабруйску, 1919 г.

Мала хто ведае, што першае выкарыстанне танкавых войскаў на ўсходзе адбылося праз 3 гады на Беларусі, падчас польска-бальшавіцкай вайны. Як гэта ні дзіўна гучыць, але на пачатак канфлікту з савецкай Расіяй танкавы патэнцыял польскай дзяржавы быў адным з найбольш моцных у Еўропе. Вясной 1919 года па ініцыятыве камандуючага польскай арміі ў Францыі генерала Ю. Галера на базе французскага 505-га танкавага палка быў сфарміраваны 1-ы танкавы полк Войска Польскага. Паводле загаду ад 15 сакавіка 1919 года, вайсковая адзінка складалася з 5 ротаў, а афіцэрскія і камандзірскія пасады павінны былі заняць французскія танкісты. У чэрвені 1919 года полк прыбыў у Польшчу і раскватараваўся ў Лодзі. У склад гэтай вайсковай адзінкі ўвайшло 120 суперсучасных на той час танкаў «Рэно ФТ–17» (Renault FT–17), з якіх 75 з гарматным і 45 з кулямётным узбраеннем. Камандаваў палком маёр Жуль Марэ.

У жніўні 1919 года польска-бальшавіцкі фронт хутка рухаўся на ўсход. Пасля захопу палякамі Мінска Чырвоная Армія рыхтавалася да абароны на лініі Барысаў–Бабруйск–Шацк. Савецкая 16-я армія пад камандаваннем М. Салагуба атрымала загад трымаць населеныя пункты Даўгінаў, Валокі, Докшыцы. Бальшавікі рыхтаваліся да працяглай абароны, і нават не маглі сабе ўявіць, якую зброю супраць іх выкарыстае праціўнік. Польская другая дывізія легіёнаў займала пазіцыі на лініі Пліса–Лужкі, а на поўнач ад яе дзейнічала камбінаваная вялікапольская дывізія пад камандаваннем генерала Д. Канажэўскага.

24 жніўня 1919 года камандуючы Літоўска-Беларускім фронтам генерал-паручнік С. Шэптыцкі выдаў загад пачаць наступленне на Бабруйск 27 жніўня. Аднак з-за таго, што ў склад дывізіі Канажэўскага была аддадзена другая рота 1-га танкавага палку, якой патрабаваўся час, каб дабрацца да месца баявых дзеянняў, дата пачатку наступлення была перанесена на суткі. Ужо 18 жніўня 1919 года транспарт з танкамі пад камандаваннем капітана Жана Дзюфура выехаў са станцыі Лодзь у бок Ліды. У Ясень танкі прыбылі 27 жніўня ў 20.30.

Наступленне на Бабруйск павінна было адбывацца ў трох накірунках. Першая група войск падпалкоўніка Арнольда Шылінга павінна была фарсіраваць раку Ваўчанку і ўдарыць на Бабруйск праз вёску Панюшкавічы. Другая група пад камандаваннем палкоўніка Брызана павінна была наступаць у цэнтры праз Кісілевічы і Багушэўкі. Трэцяя група падпалкоўніка Уладзіслава Андэрса (таго самага, які ў 1941 годзе ўзначаліць польскае войска ў СССР), паводле плану, наступала на правым крыле і павінна была захапіць бабруйскія масты.

Бабруйск абаранялі 67-ы і 68-ы стралковыя палкі 8-й пяхотнай дывізіі Чырвонай Арміі, два батальёны маракоў, 3 бронецягнікі, 4 гарматы, некалькі браневікоў, 25 кулямётаў. Усяго ў горадзе на Бярэзіне знаходзілася 2500 чырвонаармейцаў, якія занялі акопы на старых рускіх абарончых пазіцыях каля ракі Ваўчанкі.

Танкі рушылі з Ясеня а 23 гадзіне. Марш быў даволі цяжкім, таму што тэрыторыя баявых дзеянняў была багністай. Значная колькасць меліярацыйных равоў стварала цяжкасці для французскіх танкістаў. Беларускія сяляне масава выходзілі на дарогі, каб уласнымі вачыма ўбачыць новы від зброі. З Баранавічаў танкі рушылі ў накірунку Кісялевічаў. Калона «Рэно» наблізілася да ракі Ваўчанкі. І тут па ёй пачалі страляць гарматы з бальшавіцкага бронецягніку, які знаходзіўся каля вёскі Бібкаўшына. Адначасова французаў атакавалі чырвонаармейцы, абстрэльваючы танкі з кулямётаў. На падтрымку танкам ішла польская пяхота з 4-га палка Вялікапольскіх стралкоў. Першы танкавы ўзвод рушыў у напрамку на поўнач ад дарогі Баранавічы–Валожын, а два іншых накіраваліся на поўдзень. Танкі, узброеныя гарматамі, абстрэльвалі пазіцыі савецкай артылерыі, а кулямётныя сканцэнтравалі агонь па акопах, у якіх заселі спужаныя чырвонаармейцы. Хутка ФТ–17 дайшлі да ракі Ваўчанкі, аднак абрывісты бераг не дазволіў адразу фарсіраваць водную перашкоду. «Рэно» развярнуліся і пачалі абстрэльваць адступаючых бальшавікоў. Адзін з танкавых узводаў усё ж знайшоў зручнае для пераправы месца і, аказаўшыся на іншым беразе, пачаў флангавы абстрэл савецкіх пазіцый. Пры гэтым французскія танкі прарвалі пяць шэрагаў ліній калючага дроту і зрабілі праход для пяхоты. Чырвонаармейцы пачалі здавацца ў палон. Палякі працягвалі пераслед адступаючых, аднак танкі вымушаны былі спыніцца. Аказалася, што два з іх моцна пашкоджаны, а дзве другія машыны пайшлі пад ваду па самую вежу.

Пакуль танкісты разбіраліся з пашкоджанымі машынамі і спрабавалі выцягнуць затопленыя танкі, польскія сапёры спрабавалі адрамантаваць мост праз Ваўчанку. Аднак тут палякаў атакавалі савецкія бронеаўтамабілі. Яны з кулямётаў абстралялі сапёраў. Палякі накіравалі да моста некалькі танкаў. Адзін з іх, пад'ехаўшы да моста, стрэліў па браневіку. Снарад трапіў дакладна ў цэль. Савецкі бронеаўтамабіль выбухнуў. Другая машына з зоркай на борце адступіла. Хутка мост быў адрамантаваны, і «Рэно» рушылі даганяць пяхоту. Пад Семкавым польскую пяхоту затрымаў агонь савецкіх кулямётаў. Здавалася, што польскае наступленне было затрымана, але з'яўленне танкаў вырашыла сітуацыю на карысць палякаў. Другі ўзвод лейтэнанта Фарэ атакаваў савецкія акопы і выбіў адтуль чырвонаармейцаў. У 5 кіламетрах ад Бабруйска танкі вымушаны былі затрымацца ў сувязі з вычарпаннем палівам. Хутка да французаў палякі накіравалі два грузавікі з палівам і харчаваннем.

У той час, калі французскія танкісты адпачывалі, польская вайсковая група палкоўніка Брэзана наблізілася да горада, хуткім ударам захапіла чыгуначную станцыю «Бабруйск» і атакавала савецкі гарнізон у крэпасці. У атацы польскім салдатам дапамагала рота танкаў «Рэно». Група падпалкоўніка Шылінга пасля цяжкай пераправы праз Ваўчанку прарвала бальшавіцкую лінію абароны і ўварвалася ў горад з іншага накірунку. Нарэшце, група падпалкоўніка Андэрса ўвайшла ў Бабруйск з боку фальварку Варновічы, захопліваючы чыгуначную станцыю «Беразіна». Канчаткова горад аказаўся ў руках палякаў 28 жніўня 1919 года.

Адступаючы ў кірунку Жлобіна і Рагачова, чырвонаармейцы знішчылі масты, што змусіла палякаў адмовіцца ад далейшага праследу праціўніка. Польскія трафеі падчас баёў за Бабруйск былі значнымі: 500 ваеннапалонных, дзве гарматы, 35 чыгуначных вагонаў, шмат кулямётаў і вінтовак. Аднак у баях пад Бабруйскам і самі палякі панеслі адчувальныя страты. Падчас адной з контратак чырвонаармейцы здолелі захапіць два французскія танкі. Лёс іх экіпажаў і зараз не вядомы.

За ўдзел у баях за Бабруйск камандзір 1-га танкавага батальёну маёр Альбер Маршан, камандзір танкавай роты капітан Жан Дзюфур і камандзір узвода падпаручнік Фердынанд Браке былі ўзнагароджаны Крыжамі мужных. Пасля баёў на Бярэзіне французы ўдзельнічалі ў баявых дзеяннях пад Дынабургам. Хутка пасля гэтага французскія экіпажы адбылі на радзіму, перадаўшы свае машыны палякам.



Польскія танкі ў наступленні на Бабруйск, 1919 г.

## Эпілог

Адной з найбольш гучных навін у сённяшняй Польшчы з'яўляецца інфармацыя пра тое, што Польшча атрымала ў дар ад Афганістана стары танк «Рэно ФТ–17», які доўгі час знаходзіўся каля будынку Міністэрства абароны ў Кабуле. Пасля дакладнага аналізу баявой машыны, амерыканскія гісторыкі адзначылі, што, хутчэй за ўсё, гэты танк быў адным з тых, якія Францыя накіравала ў Польшчу ў 1919 годзе. Некалькі гэтых машын трапіла ў рукі бальшавікоў пад Бабруйскам у жніўні 1919-га. У 1920-я гады маладая дзяржава Саветаў мела добрыя палітычныя адносіны з Афганістанам. Хутчэй за ўсё, французскія танкі сталі падарункам бальшавікоў афганскаму шаху. І вось нарэшце адна са страчаных на Бярэзіне баявых машын вяртаецца на радзіму.

ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# ЛЁС АНТОНА ШКЯЛЁНКА

Сяргей ЧЫГРЫН

**5 снежня 2008 года на старонках «Новага часу» быў апублікаваны мой артыкул пра Міколу Шкялёнка — беларускага палітыка, гісторыка, журналіста, педагога, якога ў сярэдзіне 1940-х гадоў высачылі і знішчылі савецкія органы бяспекі. За гэты час знойдзены новыя звесткі пра слыннага беларуса і яго сваякоў. Сёння хачу расказаць пра лёс яго роднага дзядзькі Антона Шкялёнка.**

## Вайсковая кар'ера

У бацькі Міколы Шкялёнка, Восіпа, было два браты — Мікалай і Антон. Антон нарадзіўся ў вёсцы Пякоціна Міёрскага раёна ў 1889 годзе.

Ён скончыў Дзісенскае гарадское вучылішча, Віленскае пяхотнае вучылішча і два класы Мікалаеўскай ваеннай акадэміі. А пазней — Акадэмію Генеральнага штаба ў Санкт-Пецярбурзе.

З пачаткам Першай сусветнай вайны Антона Шкялёнка ўзялі на фронт. Ён служыў перакладчыкам у штабе армій Паўднёва-Заходняга фронту. У канцы 1915 года штабс-капітан Антон Шкялёнак быў пераведзены ў Генеральны штаб і прызначаны памочнікам старшага ад'ютанта аператыўнага аддзялення генерал-кватэрмайстра восьмай арміі. Праз два гады ў званні капітана служыў памочнікам начальніка першага аддзялення ўпраўлення генерал-кватэрмайстра ў штабе Вярхоўнага галоўнакамандуючага.

У 1919 годзе палкоўнік Шкялёнак ужо камандаваў пятай пяхотнай дывізіяй. А праз год яго прызначылі на пасаду начальніка аператыўнага аддзялення пры генерал-кватэрмайстры штаба галоўнакамандуючага палкоўніка Канавалава…

Так па вайсковай лесвіцы рухаўся ўверх беларус Антон Шкялёнак. Ён уступіў у Добраахвотніцкую армію генерала Дзянікіна, дзе стаў начальнікам штаба пятай дывізіі. І завяршыў службу ў Рускай арміі генерала Урангеля.

Пасля эвакуацыі арміі з Крыма ў Канстанцінопаль, ён адзін з першых выехаў (дарэчы, у якасці студэнта) у Прагу, дзе атрымаў стыпендыю ад урада Чэхаславацкай Рэспублікі. Там скончыў чэшскае Вышэйшае тэхнічнае вучылішча (здаў экзамены за два гады экспромтам) і застаўся ў вучылішчы працаваць асістэнтам па матэматыцы.

Аднойчы ў 1925 годзе генерал Чэхаславацкай арміі Клецанда, які добра ведаў Шкялёнка па штабу Паўднёва-Заходняга фронту, дзе ён таксама працаваў перакладчыкам штаба, прапанаваў беларусу паступіць у Генеральны штаб Чэхаславацкай арміі. Але Антон Шкялёнак шчыра адмовіўся ад прапановы і паступіў на службу ў Ваенна-Геаграфічны інстытут, дзе і працаваў, атрымаўшы чэхаславацкае грамадзянства.



Антон Шкялёнак, пачатак XX стагоддзя



Уладзімір Наватны, сучасны здымак

Перад Другой сусветнай вайной эмігранты-белагвардзейцы прысвоілі Антону Шкялёнку званне генерала. На Бацькаўшчыну з эміграцыі ніколі ён не прыязджаў, але прыязджалі яго жонка Кацярына і дачка Раіса. Антон ажаніўся з казачкай Кацярынай Быкавай, якая нарадзіла яму дачку Раісу. Магчыма, у 1920-х — пачатку 1940-х гадоў Антон Шкялёнак сустракаўся са сваім пляменнікам Міколам Шкялёнкам у Чэхаславакіі і ў Польшчы, дапамагаў яму фінансамі асабіста і выдаткоўваў грошы на беларускую справу. Мікола шчыра сябраваў з дзядзькам, перапісваўся з ім. На адным з фотаздымкаў напісана: «На памяць дарагому пляменніку Колю ад родных: дзядзькі Антона Максімавіча, цёткі Кацярыны Пракопаўны і сястрычкі Раісы Антонаўны Шкялёнак. 2 лютага 1925 года, Прага».

## Арышт

Калі ў Прагу ўвайшлі савецкія войскі, Антон Шкялёнак адным з



Кацярына і Раіса Шкялёнкі — жонка і дачка Антона Шкялёнка, пачатак XX стагоддзя

першых чэхаславацкіх грамадзян стаў ахвярай камуністычнага рэжыму на тэрыторыі Чэхаславакіі. У маі 1945 года ён, як белаэмігрант, быў арыштаваны СМЕРШам і вывезены ў Савецкі Саюз. Незадоўга да арышту знаёмы чэшскі ляснік прапаноўваў схаваць Шкялёнка альбо пераправіць на тэрыторыю, вызваленую амерыканцамі. Але Антон адмовіўся. «На маім сумленні няма ніводнага злачынства — ні перад Богам, ні перад Радзімай», — сказаў ён знаёмаму лесніку.

У Савецкім Саюзе Антона Шкялёнка хутка судзілі, а пасля суда адправілі ў Сібір. Па дарозе ў няволю ён сам сабе задаваў пытанне: за што? І дзесьці ў 1947 годзе не вытрымаў katаванняў і этапаў. Падчас аднаго з іх наш зямляк кінуўся з цягніка ў раку і загінуў.

5 чэрвеня 2002 года Антон Шкялёнак быў пасмяротна ўзнагароджаны Ганаровым крыжам міністра абароны Чэшскай Рэспублікі. Крыж быў уручаны яго дачцэ Раісе Наватнай-Шкялянко (так яна падпісвалася ў апошні час). Копія дыплома была выстаўлена ў музейнай экспазіцыі «З Прагі ў ГУЛАГ» у Празе. А 3 ліпеня 2002 года Сенат Чэшскай Рэспублікі пасмяротна ўзнагародзіў яго медалём «За гераізм». Але дачка гэтай узнагароды не дачакалася — яна памерла ва ўзросце 83 гадоў і пахавана на Альшанскіх могілках у Празе. Сімвалічная магіла Антона Шкялёнка таксама знаходзіцца на Альшанскіх могілках.

## Дачка і ўнук

Дачка Антона Шкялёнка Раіса была замужам за Ольдржыхам Наватным — вядомым чэшскім інтэлектуалам, які ўсё жыццё працаваў выкладчыкам літаратуры і моваў. Сама Раіса працавала перакладчыцай. Перакладала на чэшскую мову творы рускіх пісьменнікаў.

Іх сын Уладзімір Наватны — знакаміты чэшскі літаратурны крытык, літаратуразнавец і перакладчык. Аўтар шматлікіх кніг па творчасці рускіх і чэшскіх пісьменнікаў. У яго жылах цячэ беларуская, руская і польская кроў. Нядаўна ў Чэхіі я адшукаў Уладзіміра Наватнага, і нават ад яго атрымаў першы ліст. Вось што ён напісаў (цытую ў перакладзе на беларускую мову): «Паважаны спадар Чыгрын! Пішу Вам ліст на рускай мове, беларускай мовы, на самы вялікі жаль, я добра не ведаю. Ваш ліст мяне вельмі зацікавіў. Пра сваякоў майго дзеда Антона Шкялёнка я амаль нічога не ведаў і не ведаю. Пасля паразы Белай арміі дзед жыў у Празе, стаў палкоўнікам чэшскай арміі. У траўні 1945 года яго забраў НКУС, хаця ён быў грамадзянінам Чэхаславакіі. Некаторы час быў у ваенным канцлагеры ў Raciborzi ў Польшчы, потым яго след прапаў. Некаторыя зэкі, якія вярнуліся ў Чэхію, казалі, што ён пакончыў з сабой у канцлагеры на Каме, але гэта не даказана. Пасля 1989 года мы стараліся нешта даведацца, але ў маскоўскіх архівах нам нічога не сказалі, альбо там нічога не зберaглося. Я не ведаю.

Мая бабуля, жонка Антона Шкялёнка, памерла ў 1975 годзе. У іх была толькі адна дачка, мая мама Раіса Антонаўна (1919–2002), перакладчыца з рускай мовы і выкладчыца. Педагогам, паэтам і перакладчыкам быў і яе муж, мой бацька Ольдржых Наватны (1913–1993). Я нарадзіўся ў 1946 годзе ў Празе, але свайго дзеда ніколі не бачыў. Мама выйшла замуж да прыходу савецкіх войск. Я працаваў галоўным чынам рэдактарам у часопісах і ў выдавецтвах. Пасля 1989 года — навуковым супрацоўнікам у Акадэміі навук. Цяпер я жыву за Прагай і выкладаю чэшскую літаратуру і крытыку, галоўным чынам ва ўніверсітэце Пардубіцэ ва ўсходняй Чэхіі. Са мной — гара кніг. Сын мой скончыў тэатральны факультэт, жыве тэатрам.

Некаторыя сямейныя матэрыялы зберагліся ў майго брата Яраслава Наватнага, юрыста па адукацыі. Праўда, і ў мяне ёсць сёе-тое…

Мой mail і хатні адрас цяпер вам вядомыя. Пішыце, што вас цікавіць і чым вам магу дапамагчы, будзем разам шукаць звесткі пра Шкялёнкаў. З павагай — Уладзімір Наватны, Чэхія».

Вось такі ліст я атрымаў ад унука Антона Шкялёнка. Хачу яшчэ дадаць, што жонка Антона — Кацярына Пракопаўна Шкялёнак (Быкава) у гады Першай сусветнай вайны спявала ў кіеўскай оперы. А калі жыла ў Чэхіі, то там арганізавала рускі хор, і нават паспяхова гастралявала з ім па Чэхаславакіі. На ўсе рукі майстрам быў і яе бацька Пракоп Быкаў. Яшчэ сёння ў Хабараўскім краязнаўчым музеі можна ўбачыць пудзілы птушак і звяроў, якія былі зроблены яго рукамі.

Вось такі лёс Антона Шкялёнка — роднага дзядзькі нашага славутага гісторыка і палітыка Міколы Шкялёнка. Пошукі інфармацыі пра Шкялёнкаў працягваюцца.

▸ ВЫСТАВА

# СВЕТ МАРТЫ ШМАТАВАЙ

**У Мінскай бібліятэцы імя Пушкіна адбылася выстава «Паралельныя размовы», якая прыцягнула ўвагу аматару жывапісу прыхільнасцю ўдзельнікаў (У. Швайбы, М. Малышава і інш.) да ідэяў сюррэалізму. Адным з аўтараў прац была мінская мастачка Марта Шматава, дачка доктара мастацтвазнаўства, былога супрацоўніка Інстытута мовазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН РБ Віктара Фёдаравіча Шматава.**



На карцінах Марты Шматавай час спыняецца, героі думаюць пра вернасць ідэалам, мужчыны ставяцца да жанчын з беражлівасцю і далікатнасцю. Працы «Філосаф», «Святло месяцу», «Ноч», «Паміж сезонамі», «Ідылія», «Натхненне» сведчаць пра дасканала сфарміраваны аўтарскі стыль, гуманістычную скіраванасць твораў, багацце пачуццяў і адухоўленасць вобразаў.

Сваімі думкамі на свет і мастацтва Марта Шматава падзялілася з журналісткай Элай Дзвінскай і чытачамі НЧ.

***— Як традыцыі сям'і паўплывалі на ваш жыццёвы выбар?***

— Я нарадзілася ў 1965 годзе. З дзяцінства памятаю, як бацька кожны дзень працаваў над малюнкамі, графікай. Спачатку дома, у аднапакаёвай кватэры на вуліцы Валгаградскай, потым — над жывапіснымі працамі ў вялікай майстэрні каля кінатэатра «Перамога». Тата выхоўваўся ў дзіцячым доме, горача імкнуўся да адукацыі. Ён вучыўся спачатку на графічным аддзяленні, рабіў эскізы, сатырычныя малюнкі, потым перайшоў на жывапіс. Працаваў ён вельмі шмат, пачынаючы з 5-ці гадзін раніцы. Мама Валянціна, кандыдат хімічных навук, спрыяла яму і дапамагала, яна была цудоўным чалавекам. Тата кожны дзень прыдумваў для мяне казкі ў фальклорным духу пра Алеся і Яна, а назаўтра павінен быў быць працяг. Бацька паўплываў на мой лёс тым, што ў жыцці павінна прысутнічаць творчасць. Ён ставіў перада мной з маленства складаныя задачы: перакласці апавяданне з дзіцячай кніжкі са слоўнікам. Малой, мне карцела даведацца, што адбываецца ў кнізе, і я паглыблялася ў слоўнік.

Ён быў родам з Камарына, таму вельмі блізка да сэрца ўспрыняў Чарнобыльскую бяду. Разам з калегамі імкнуўся выратаваць лепшыя этнаграфічныя экспанаты, эвакуяваць не толькі людзей, але і мастацкія вырабы. З калегамі ён стварыў унікальны аддзел «Помнікі этнаграфіі і народнага мастацтва Чарнобыльскай зоны» пры Музеі старажытнабеларускай культуры інстытута. Ён быў адным з першых, хто быў узнагароджаны медалём Ф. Скарыны.

Я скончыла вучэльню імя Глебава. На старэйшы курсах у мяне з'явіліся акрэсленыя мэты, вырашыла паступаць у Акадэмію мастацтваў. Але капіраваць бацьку не хацела, шукала свой стыль і выражэнне ўласнай індывідуальнасці.

З дзяцінства я была незалежная. Паступіла вучыцца на графіку, таму што на гэтым аддзяленні ад студэнтаў менш патрабавалася адпавядаць канонам сацрэалізму. Я лічыла, што кніжная графіка дасць мне больш свабоды. Мой дыплом быў прысвечаны творчасці Максіма Багдановіча. Вабіў яго фантастычны, міфалагічны свет. Кожнае слова зазяла, нібы дыямент. Пазней я перайшла да жывапісу. З таго часу, калі я пачынала, памянялася грамадская фармацыя.

На старэйшых курсах усе пачалі шукаць свабоды, хацелася новага. Рамантызм і ідэалізм прысутнічалі ў вялікай ступені. Даведаліся пра многіх замежных мастакоў. Пікасо быў вядомы толькі таму, што ён быў камуніст...

Я заўсёды іду ад жыцця, ад уласных пачуццяў. Быў такі час, перабудова, руйнаваўся адзін уклад, з'яўлялася новае — нарадзжаліся такія творы сюррэалістычнага рэалістычнага бачання. Трэба было знайсці новыя арыенціры, адказаць на пытанні, у чым сэнс гісторыі, сэнс свабоды. Я займалася самаадукацыяй, удасканаленнем тэхнікі.

***— Жанчына імкнецца прыўнесці ў навакольнае асяроддзе гармонію, цеплыню, беражлівасць, і вашы карціны нясуць гэтыя імпульсы.***

— Я знайшла адказ для сябе ў тым, што хачу перадаваць пазітыўныя светлыя энергіі. Нашае жыццё далёкае ад дасканаласці. У ім шмат праблемаў, шмат болю. Мастацтва мусіць гэта адлюстроўваць, быць неадназначным. З другога боку, кожны з нас ідзе ад прыроды, ад таго, што ў ім закладзена ад пачатку. Свет у душы ёсць у любых абставінах, трэба яго візуалізаваць. Памятаю, як Нінэль Шчасная ў свой час старалася зладзіць як мага больш менавіта жаночых выставаў, спагадна ставячыся да іх, часам заплюшчваючы вочы на недахопы.

***— Сённяшняй віртуальнай прасторы бракуе далікатнасці, цнатлівасці. На вашых карцінах мужчыны глядзяць на жанчын з трапяткімі пачуццямі, з замілаваннем. Дзяўчыны засяроджаны на думках і пачуццях, ім уласціва павольнасць, задуменнасць, адухоўленасць...***

— У маіх карцінах галоўнай асобай з'яўляецца чалавек. Менавіта ўспрыняцце свету чалавекам афарбоўвае гэты свет эмацыйна, напаўняе яго сэнсам.

Чалавек і час, чалавек і прырода, чалавек і цывілізацыя, чалавек і чалавек, чалавек і ягоныя мары ды мроі — роздум на гэтыя тэмы дае мне сюжэты маіх карцін.

У раскрыцці тэмы я звяртаюся да мовы сімвалаў. Гармонія і сімвалічны характар колераў, ліній і формаў мае не меншае значэнне, чым сюжэт. Зразумела, колер — таксама і незаменны сродак у стварэнні дэкаратыўнай тканіны карціны, яе настрою. У маіх карцінах часам мяжа паміж зямлёй і небам з'яўляецца ўмоўнай і зменлівай, як няма ў нашым жыцці і ўспрыняцці дакладнай мяжы паміж «зямным» і «нябесным». Зямля і неба, зіма і лета, дзень і ноч, рэальнасці і мроі суіснуюць, змяняюць адно аднаго. Гэты ўзор, які пачынаецца ў бясконцасці і сыходзіць у бясконцасць, абрамляе чалавечае жыццё, уплятаецца ў яго, выклікае захапленне перад велічнымі таямніцамі Быцця.

Такім чынам, мне цікава даследаваць непаўторны і таямнічы ўнутраны свет чалавека, ягоныя роздумы і мроі, якія звязаны менавіта з адчуваннем сябе чалавекам — часовым жыхаром Зямлі, але тым, хто валодае бессмяротнай душою.

Час бяжыць, плынь жыцця імчыцца ў штодзённых клопатах, але ёсць прыпынкі, калі чалавек знаходзіцца сам-насам з сабой. Вядзе дыялог са сваёй душой. Гэтыя моманты чалавека развіваюць і яго падымаюць.

***— Чым была адметная выстава «Паралельныя размовы»?***

— Выстава адбылася дзякуючы ініцыятыве і энергіі Максіма Малышава, які з'яўляецца прыхільнікам сюррэалізму. З мастачкамі Горавай і Міронавай яго звязваюць сяброўскія адносіны і былыя выставачныя праекты. Але на гэты раз ён, дзякуючы сваёй настойлівасці і ідэі, якая ім кіравала, прыцягнуў да свайго праекту новых удзельнікаў: мяне, Генадзя Драздова і Усевалада Швайбу. Выстава атрымала такі каментар:

«Кожны з аўтараў мае сваю ўласную вобразна-стылёвую мастацкую мову. Агульнай з'яўляецца цікавасць да таямніц чалавечай падсвядомасці, мрояў і мараў, якія даюць бязмежную прастору для пабудовы суб'ектыўнай мастацкай рэальнасці. Творчасці мастакоў уласцівыя сімвалізм, разуменне мастацтва як выніку ўзаемадзеяння трансцэндэнтнага і індывідуальнага, непаўторнасць стылю.

Аўтары зацікаўлены ў даследаванні ўнутранага свету чалавека, які падаецца не менш рэальным, а часам больш значным, чым свет знешні».

▸ КАНЦЭРТ

# СЯБРОЎСКІ ПАДАРУНАК АД ГУРТА «RE1IKT»

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Бадай, упершыню перспектыўны metal-гурт «Re1ikt» атрымаў магчымасць заявіць пра сябе пры дапамозе бясплатнага канцэрта.**

Таму не дзіўна, што прэс-канферэнцыя, прысвечаная новаму праекту «СТАрт», які распачаўся дзякуючы дапамозе прыватнай кампаніі «СТА Логісцік», прыцягнуў пільную ўвагу журналістаў шматлікіх дзяржаўных і недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

Перавага бясплатнага канцэрта відавочная — у гэтым выпадку нашмат большая колькасць слухачоў, якія запоўняць канцэртную залу, даведаюцца пра музычныя эксперыменты маладых выканаўцаў, а на зэканомленыя грошы яны змогуць набыць сольныя дыскі і DVD гэтага гурта. З іншага боку, «падарункі псуюць сэрца» (Эклезіяст, раздзел 7), таму ёсць верагоднасць таго, што некаторыя слухачы, асабліва не вельмі багатыя, не захочуць больш плаціць грошы за квіткі...

Але ўдзельнікі гурта «Re1ikt» не вельмі баяцца нейкіх негатыўных наступстваў канцэрта ў клубе «Re:Public» і будуць рабіць усё, каб слухачы пазнаёміліся з перавыданнем альбома гурта «Рэкі прабілі лёд» і live-DVD «Крыгаход», якія не так даўно выйшлі на фірме «VIGMA». Прадстаўнік гэтай кампаніі А. Багдасар'ян падкрэсліў, што альбом «Рэкі прабілі лёд» гурта «Re1ikt» выдаецца яго фірмай у супрацоўніцтве з БМАgroup ужо другім накладам. Першы наклад аказаўся запатрабаваны ў слухачоў і хутка знік за паліц фірмовых музычных крамаў. Сапраўды, прабіў лёд недаверу слухачоў адносна сапраўды беларускіх па духу рок-выканаўцаў.

Лідар гурта «Re1ikt» А. Дземідзенка заўважыў, што музычны матэрыял гэтага альбома быў гатовы ўжо ў 2009 годзе, аднак толькі ў 2011-м пабачыў свет. З ім музыканты былі на гастролях у



розных рэгіёнах Беларусі (Мар'іна Горка, Слуцк, Гомель), а таксама ў Літве, Польшчы, Украіне. І новы канцэрт гурта носіць рысы своеасаблівай справаздачы перад слухачамі. У гэтым гурту «Re1ikt» дапамагаюць сябры-музыканты Сяргей Долгушаў («Vuraj») і Паліна Дулінец («Rokash»), а таксама артысты экстрым-тэатра «Берсерка» і арт-праекта «Ілюзіён».

Паводле прызнанняў музыкантаў, у кампазіцыях гурта «Re1ikt» можна адчуць уплыў такіх стылістычных напрамкаў, як progressive rock, post rock, art rock і alternative rock. Але гэтыя адзначэнні творчасці гурта «Re1ikt», якія раз за разам мільгацяць у музычных рэцэнзіях і аглядах, — толькі своеасаблівыя «тэгі» для большай арыентаванасці слухачоўскай аўдыторыі, якой патрэбна ведаць, што іх чакае ў канцэртнай зале.

Самі ж выканаўцы сыходзяцца ў адной думцы, што іх музыка найбольш адпавядае тэрміну «беларускі рок»! Гэта пацвердзілі і замежныя слухачы: альбом гурта «Re1ikt» «Рэкі прабілі лёд» быў дасланы ў шматлікія спецыялізаваныя выданні, дзе атрымаў высокую ацэнку рэцэнзентаў. Нават больш прыхільную, чым некаторых айчынных аглядальнікаў. Хто мае рацыю ў гэтай завочнай спрэчцы, слухачам вырашаць на канцэрце.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП "Плутас-Маркет". г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1189

Падпісана да друку 16.11.2012. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.